PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 10 (2130) Год XLII Беласток 9 сакавіка 1997 г. Цана 1 зл.



*Царква ў Саколцы.*

# Атракцыёны Сакольскай зямлі

Ганна Кандрацюк

**На прывакзальнай будыніне ў Саколцы красуецца вялізны надпіс „Polacy górą". Хто тут змагаецца з палякамі? Можа татары? Гэтая нацыянальная меншасць тут багата экспанавана. Пра беларусаў нідзе не пачуеце, бо публічна яны не існуюць.**

**— З беларускасцю ў нас складаная сітуацыя, — кажа Часлаў Санько, намеснік бурмістра. — Быццам яе няма, але і ёсць.**

* * *

У Саколцы адчуваецца подых мяшчанскіх традыцый. Уражвае вялікая колькасць малых магазінаў і даваенных будынкаў. На рынку процьма гандляроў з-за ўсходняй мяжы. За два злоты можна купіць там класныя цыгарэты. На рынку амаль і не чуваць польскай мовы, расейшчына перабіваецца нават праз моцныя гукі disco polo. Затое ў горадзе наведзены адмысловыя парадкі. Усе вуліцы памянялі назвы, у парку новы помнік Юзафу Пілсудскаму. На будынку Управы горада бел-чырвоны сцяг.

Саколка заснавана ў XV ст. як паляўнічы двор гарадзенскага старасты. У 1609 г. атрымоўвае гарадское права. Найбольш бурлівае развіццё выпадае на 70-ыя гады нашага стагоддзя. Тады ўтрая павялічылася колькасць жыхароў. З правінцыяльнага мястэчка, Саколка сталася 20-тысячным горадам, адміністрацыйным, гаспадарчым і асветным цэнтрам паўночнай Беласточчыны. Развіццю горада паспрыяла геаграфічнае распалажэнне і міграцыя вяскоўцаў. Саколка знаходзіцца на шляху міжнародных чыгуначных дарог. Адсюль толькі 16 кіламетраў у Беларусь.

Да Саколкі (далей яшчэ ў Геніёшы) даведзены шырокія расейскія рэйкі.

Самымі вядомымі прадпрыемствамі ў Саколцы з'яўляюцца „Stolbud", Акруговы малочны кааператыў, фірма „Spomasz" і сельскагаспадарчы „Belcpol".

„Stolbud", вядомы ва ўсёй Польшчы, займаецца вытворчасцю трохшыбных акон і дзвярэй. З малочных прадуктаў варта адзначыць папулярны ў Беластоку сакольскі кефір і татарскі сырок. Мясціну расславіў таксама шпіталь, які ў 1994 годзе атрымаў званне „Szpitala Przyjaznego Dziecku".

А ў даведніку пра Саколку змешчаны адзін важны і слаўны матыў Сакольшчыны: „Atrakcją naszej ziemi jest koń sokólski. To piękne zwierzę zachwyca swą potęgą i ma u nas liczną grupę wielbicieli..."

* * *

Бадзяючыся па прывабных вулачках Саколкі мне пашанцавала пачуць беларускую мову. Суразмоўцы ў сярэднім узросце гаманілі сакавітай беларушчынай і зусім не звярталі ўвагі на іншых.

На праваслаўнай плябаніі сустрэў мяне айцец Уладзімір Місяюк. Святар — пастаянны чытач нашага штотыднёвіка. У Саколцы ён ужо 14 гадоў. Разам з матушкай Валянцінай вядуць урокі рэлігіі для праваслаўных дзетак. У час майго візіту якраз праходзілі заняткі з пяцікласнікамі з Пачатковай школы н-р 1. І хаця ў Саколцы горстачка праваслаўных, аднак у цэнтры горада красуецца невялікая царква.

— На заняткі рэлігіі ходзіць 200 дзяцей з пачатковых школ, — лічыць святар.

У сярэдніх школах таксама нямнога праваслаўнай моладзі, недзе 50 асоб. Апрача іх можна далічыцца яшчэ тысячы вернікаў. Найбольшай праблемай праваслаўных у Саколцы з'яўляецца асіміляцыя ў каталіцкі бок.

— Большасць нашых людзей — прыезджыя, — кажа айцец Уладзімір. — Вырваныя з карэнняў людзі лёгка мяняюць традыцыі.

Не надта цікава выглядае дэмаграфія. У 1995 годзе ў царкве ахрысцілі 14 дзетак, прычым пахаванняў было 21. У цэлым Сакольскім дэканаце было 52 хрышчэнні і 132 пахаванні. На вёсках наглядаецца працэс адмірання. Айцец Уладзімір Місяюк станоўча гаворыць пра сваіх вернікаў:

— Нашы прыхаджане адданыя Царкве.

Сам святар карыстаецца чысценькай беларускай мовай. Супрацоўнічае ён з беларускай радыёперадачай у Польскім радыё.

* * *

Насупраць царквы знаходзіцца Управа горада. Перад кабінетам бурмістра фатаграфічная выстаўка з адкрыц-

[працяг ☞ 8]

# Літвіны, заходнерусы..., беларусы

Яўген Мірановіч

**Сто гадоў таму двух менскіх гімназістаў — Іван і Антон Луцкевічы — утварылі гурток з мэтай вывучэння гісторыі Беларусі і распрацоўкі беларускага нацыянальнага пытання. У 1902 годзе браты Луцкевічы, як студэнты пецярбургскіх вышэйшых устаноў, заснавалі там Гурток беларускай народнай асветы. Пару месяцаў пасля з іх удзелам узнікла першая беларуская палітычная арганізацыя — Беларуская рэвалюцыйная грамада. Невялікая група беларускай інтэлігенцыі пастанавіла ўваскрэсіць нацыянальную свядомасць свайго люду і дапамагчы яму стаць гаспадаром на сваёй зямлі. Выключна на энтузіязме маладых людзей трэба было будаваць усё тое, што іншым народам давала дзяржава, царква, палітычная традыцыя.**

Для кожнага чалавека, які арыентуецца ў гісторыі Еўропы, узнікае тады пытанне: чаму ўсё гэта пачалося так позна, калі ўжо сфарміраваліся амаль усе еўрапейскія народы; чаму пачынальнікамі беларускага нацыянальнага адраджэння сталі гімназісты, студэнты, маладая інтэлігенцыя.

У XVIII стагоддзі завяршыўся працэс паланізацыі беларускай шляхты. Хаця называлі яны сябе літвінамі (ад Вялікага княства Літоўскага), але думалі палітычнымі катэгорыямі Рэчы Паспалітай, таксама як шляхта мазавецкая ці вялікапольская. Каталіцкае веравызнанне, мова, культура спалучалі іх з польскай элітай, адрознівалі ад беларускага люду. Старая беларуская літаратурная мова ў рэчаіснасці стала мёртвай. Карысталіся ёю — у розных дыялектах — толькі сялянства, мястэчковае насельніцтва і збяднелая шляхта. Пасля далучэння Беларусі да Расіі ў 1795 годзе, афіцыйнай дзяржаўнай мовай стала расейская, але фактычна ў грамадскім жыцці краю да 1863 г. панавала польская. Грамадскае павышэнне чалавека плебейскага паходжання ў Беларусі найчасцей пераўтварала яго ў свядомага паляка ці расейца. У вачах польскіх эліт беларусы былі „kresowym ludem polskim", паводле царскай адміністрацыі — „истинно русским народом".

Не абазначае гэта, што ў XIX стагоддзі не існавалі тэрміны „Беларусь", „беларусы", „беларуская мова". Наадварот, ахвотна карысталася імі расейская навука, адміністрацыя, культурна-

[працяг ☞ 4]

# Мы прачыталі

*Sowite odprawy dla odchodzących parlamentarzystów. Dla nowo wybranych dwukrotnie wyższe od dzisiejszych. Trzy uposażenia dla każdego parlamentarzysty, który z własnej lub wyborców woli opuści ławy, ministerskie uposażenia dla nowowybranych, uświetnione finansowym zastrzykiem pożegnania z pracownikami biur poselskich i senatorskich. Posłów obsługuje 1 155 pracowników Kancelarii Sejmu. Dodajmy do tego pracowników, których posłowie i senatorowie zatrudniają we własnych biurach rozsianych po całej Polsce, a utrzymywanych z państwowej kasy. Sejm zużył w tej kadencji 400 000 ton papieru, zadrukowując 21 mln stron. Sejm — to dziesiątki ludzi o niejasnych kompetencjach, zasiedziałych, produkujących zwały nikomu niepotrzebnej makulatury. Podstawowe uposażenie posła przyszłej kadencji wzrośnie do 5 000 zł, plus dieta poselska w wysokości 1 500 zł. oraz rozmaite dodatki co powoduje, że pensja parlamentarzysty przekroczy 8 000 zł. Jeżeli naród zażyczy sobie radykalnej wymiany wydatki Sejmu będą o wiele większe. Odprawy dla odchodzących posłów pochłoną 24% budżetu izby. Od parlamentu poseł może pożyczyć 6 000 zł na uzupełnienie wkładu mieszkaniowego i 5 000 zł na remont oraz otrzymać losową zapomogę w wysokości 1 500 zł (były poseł może otrzymać 1 000 zł). Te świadczenia są dość powszechne. Planuje się tworzenie zapomóg na opał i lekarstwa dla posłów.*

*Polityka, nr 6*

Змаганне за крэсла будзе ў гэтым годзе больш заядлае, чым на фронце пад Сталінградам у 1942—43 г.г.

* * *

*Dyrekcja białostockiej TVP postrzega mniejszości przez pryzmat folkloru. Ot, niech sobie pośpiewają, potańczą, wystarczy. (...) Ku propozycjom szefów regionalnego ośrodka skłania się Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne skupiające pięć tysięcy członków. Jan Syczewski, przewodniczący Towarzystwa uważa, że powinny być realizowane audycje w językach mniejszości, ale nie potrzeba do tego powoływać odrębnych redakcji, by nie tworzyć getta narodowościowego.(...) Stan dziś jest taki, że Towarzystwo „ćwiczy" w telewizji przygotowywanie programu, a Związek Białoruski dobija się do władz TVP i KRRiTV.*

*Rzeczypospolita, nr 42*

Калі Таварыства нешта „ćwiczy" ў тэлебачанні, тады неўзабаве пабачым праграмы, у якіх будзе лічыцца выключна „jakość, profesjonalizm i odpowiedzialność moralna realizujących programy". Не будзе там ніякай палітычнай маніпуляцыі, таму, што кіраўніцтва арганізацыі палітыкай не займаецца.

* * *

*W telewizji pokazywali jak nasi dzielni chłopcy budują w Afganistanie szpitale, stawiają szkoły i przedszkola, zakładają wodociągi, a ja wiedziałem, przepraszam za wyrażenie, że rzeczywistość jest kurewska. Giną chłopcy, których do kraju odsyłano bez mundurów, bo po co trupowi ubranie, w zamkniętych trumnach, żeby nikt nie widział jak są zmasakrowani. Kazali ich chować po cichu, jak psy. W Afganistanie rozpoczął się upadek robotniczo-chłopskiej Czerwonej Armii. Ginęli synowie robotników i chłopów. Synków wysoko postawionych rodziców nikt tam nie widział. Za plecami armii nie było ani Moskwy, ani Rosji,* — сказаў Аляксандр Лебедзь.

*Gazeta — Magazyn, nr 6*

* * *

*Nasza polityka penitencjarna traktuje zawodowych przestępców tak jak dojrzewającą licealistkę, która w chwili zapomnienia zwędziła batonik ze sklepu. Mafiozo, który dziennie zarabia więcej niż więzienny psycholog w ciągu roku, jest przy pierwszej okazji wypuszczany na wolność jako człowiek w pełni przywrócony społeczeństwu. Po edukacji w kryminałach jest on jednak cwańszy, lepiej obstawiony adwokatami. Robi na ogół to, co robił poprzednio, tylko znacznie trudniej mu to udowodnić. Społeczeństwu przywracany jest nie osobnik cnotliwy, ale lepszy specjalista kryminalny, który swoją wiedzę lepiej potrafi wykorzystać.*

*Kurier Poranny, nr 37*

* * *

*25 grudnia Białoruś świętowała dzień czekisty. W Domu Kultury im. Feliksa Dzierżyńskiego referat wygłaszał szef białoruskiego KGB Władimir Mackiewicz. Obecność prezydenta zachęcała go do postawienia towarzyszom priorytetowych zadań: „Konieczne jest utrwalenie woli wyrażonej przez naród" — mówił. Obiecywał, że czekiści nie pozwolą, aby białoruska opozycja odbudowała struktury i destabilizowała kraj. W odpowiedzi Aleksander Łukaszenko nazwał funkcjonariuszy służb specjalnych „jądrem białoruskiego społeczeństwa", a KGB fundamentem silnej władzy prezydenckiej. Moje losy, jako polityka, są ściśle powiązane z KGB — powiedział prezydent z emfazą. Ścisłe powiązania władzy, służb specjalnych znalazły odbicie w budżecie na rok 1997. Wydatki na MSW zwiększono o 127 proc., zaś KGB — o 129 proc. Służba Bezpieczeństwa dostanie o 189 proc. więcej pieniędzy, ze względu na wzrost liczby etatów. W Moskwie tymczasem jak zarazy zjednoczenia Rosji z Białorusią boi się najbardziej oświecona, demokratyczna część rosyjskiej opinii publicznej. Inteligencja rosyjska boi się zbliżenia z bezprawiem, nędzą, dyktaturą, z państwem, w którym policja rozbija wiece, a prezydent zamyka gazety za każdą krytykę. Strach jest tym większy, że Rosja podobna jest do Białorusi. Prowincja rosyjska jest obojętną, milczącą pokorą wobec przemocy nad jednostką. Wszystkie choroby Białorusi są również w Rosji,* — піша расейскі журналіст Валерый Выжутовіч.

*Gazeta Wyborcza, nr 36*

# З мінулага тыдня

**Нацыянальная Асамблея** (супольнае пасяджэнне Сейма і Сената) другі раз разглядала праект канстытуцыі, які карыстаецца падтрымкай чатырох асноўных парламенцкіх клубаў — СЛД, ПСЛ, УВ і УП. Старшыня канстытуцыйнай камісіі **Марэк Мазуркевіч** заявіў, што прапанаваны праект — вынік палітычнага і ідэалагічнага кампрамісу. Клубы ББВР і КПН а таксама пазапарламенцкая апазіцыя крытычна ставяцца да праекта і лічаць яго „нерэпрэзэнтатыўным для ўсяго грамадства". Лідэр Уніі вольнасці **Тадэуш Мазавецкі** выказаў гатоўнасць сваёй партыі выйсці насустрач пастулатам крытыкаў праекта і падрэсліць ва ўступе прынцып прыроджанай годнасці чалавека як крыніцу вольнасці і правоў. Закранаючы спрэчную справу „Invocatio Dei", сказаў: „Бог не можа дзяліць нас, але павінен аб'ядноўваць".

**Тэатр „Новы" з Варшавы** паказаў у Магілёве дабрачынны спектакль, пастаўлены **Адамам Ганушкевічам** па матывах твораў **Ярослава Івашкевіча**. Прыхільнікі тэатральнага мастацтва — студэнты, прадстаўнікі мясцовай польскай дыяспары цёпла прынялі гэту пастаноўку. Пасля спектакля адбылася сустрэча артыстаў з гледачамі.

**З юнакамі і дзяўчатамі з Беластоцкага ваяводства**, якія выказалі жаданне паступіць у гэтым годзе ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі, сустрэліся члены спецыяльнай камісіі міністэрстваў адукацыі і аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, якая працавала ў Польшчы. Па выніках гутаркі і тэсціравання станоўчыя рэкамендацыі атрымалі 27 чалавек, у асноўным выпускнікі агульнаадукацыйных ліцэяў з Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага, у якіх выкладаецца беларуская мова. Большасць з іх добра ведаюць не толькі спецыяльныя прадметы, але беларускую мову і літаратуру.

**У Новым Двары** пачала працу новая пагранічная застава. Гэта ўжо трэцяя пагранзастава (пасля Мельніка і Крынак) на беларускім адрэзку граніцы Польшчы, якая была адкрыта на працягу апошніх трох гадоў. Новыя пагранзаставы ствараюцца з мэтай зрабіць дзяржаўную мяжу больш шчыльнай і прадухіліць нелегальную іміграцыю з усходу, якая апошнім часам становіцца штораз большым праблемам для пагранічнікаў. Стварэнне адпаведнай інфраструктуры, якая будзе засцерагаць перад арганізаванай нелегальнай іміграцыяй, з'яўляецца адной з умоў інтэграцыі з Еўрапейскім Саюзам.

**Амаль 2,5 тысячы кватэр** здадзена ў карыстанне ў мінулым годзе ў Беластоцкім ваяводстве. Палова з іх — кватэры плошчаю да 50 кв. м. У параўнанні з мінулымі гадамі наглядаецца рост колькасці невялікіх кватэр. Гэта з'ява выклікана высокімі цэнамі і такімі ж штомесячнымі кватэрнымі платамі. У згаданым перыядзе ў краіне было пабудавана 1,5 кватэры на 1000 жыхароў, а на Беласточчыне — 8,8. Гэты паказчык належыць да самых высокіх у краіне. З гарадскога бюджэту ўзведзена 199 камунальных кватэр.

**Каля Рыбалаў** у дарожнай катастрофе цяжкія цялесныя пашкоджанні атрымалі дзве асобы, якія ехалі з Бельска-Падляшскага ў напрамку Беластока на легкавой машыне „Фіат". Шафёр легкавушкі, абганяючы аўтобус, сутыкнуўся з над'язджаючым грузавікам і разбіў яму бак з палівам. У ратавальнай акцыі прымалі ўдзел рыбалаўскія пажарнікі, якія змывалі асфальт і абясшкоджвалі разлітую салярку.

**У Бельску-Падляшскім** бацька абліў бензінам і падпаліў кватэру. Маці ўцякла цераз балкон да суседзяў. Дзве дачкі (15 і 17 гадоў) уцадзелі і з апёкамі папалі ў шпіталь (падрабязнасці на стар. 10).

## Неўзабаве ў „Ніве"

- З'езд Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай.
- Фестываль „Беларуская песня '97".
- Юбілей калектыву „Дзявочыя ноткі".

# Весткі з Беларусі

**Абурэнне прэзідэнта**

Прамаўляючы на пасяджэнні парламента пасля адабрэння прэзідэнцкай кандыдатуры Сяргея Лінга на пасаду прэм'ер-міністра, Аляксандр Лукашэнка выказаў абурэнне з прычыны расейскай прапановы надаць Беларусі ў выпадку аб'яднання статус вобласці, а ейнаму прэзідэнту — пасаду губернатара. На думку Лукашэнкі, расейска-беларускае аб'яднанне можа здзейсніцца толькі і выключна на прынцыпах партнёрства і роўнасці, а ён сам павінен атрымаць пасаду віцэ-прэзідэнта аб'яднаных дзяржаў.

**Жанчыны супраць галечы і голаду**

Пад такім лозунгам 22 лютага адбылася ў Менску акцыя пратэсту, ініцыятарам правядзення якой выступіла Беларуская арганізацыя працоўных жанчын (мае яна свае падраздзяленні ў 19 рэгіёнах краіны). „Мы не заклікаем да расколу ў грамадстве, наадварот, імкнемся аб'яднаць канструктыўныя сілы рэспублікі, каб разам знайсці выйсце з зацяжнога эканамічнага крызісу", — сказала намеснік старшыні арганізацыі Марыя Аліева. У гэты дзень звыш тысячы жанчын, удараючы лыжкамі ў гаршкі і патэльні, прайшлі праз цэнтр горада ў шэсці „пустых каструль".

**Экс-міністр у Парыжы**

Указам прэзідэнта РБ былы міністр замежных спраў Уладзімір Сянько назначаны надзвычайным і паўнамоцным паслом Рэспублікі Беларусь у Францыі, пастаянным прадстаўніком пры ЮНЕСКА і надзвычайным і паўнамоцным паслом у Іспаніі і Партугаліі па сумяшчальніцтве. Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з экс-міністрам для грунтоўнай размовы.

**Закон аб банкруцтве**

Больш чым палова буйных прадпрыемстваў краіны знаходзіцца сёння на мяжы банкруцтва, — паведамілі ў Менску на рэспубліканскім семінары па праблемах фінансава-эканамічнага аздараўлення неплацежаздольнай вытворчасці. У мінулым годзе ўжо быў прыняты шэраг нарматыўных актаў, якія рэгулююць працэдуру банкруцтва. Закон аб банкруцтве паскорыць рэструктурызацыю многіх прадпрыемстваў. З'явіцца пры гэтым і новая прафесія — кіраўнік працэдуры банкруцтва.

**Вырашылі, што мае быць лепш**

У Менску адбыўся сход работнікаў аграпрамысловага комплексу сталічнай вобласці. Адзначалася, што летась была атрымана прыбаўка валавой прадукцыі на 4,6%, аднак вытворчасць малака скарацілася на 8%. Павялічылася колькасць непрыбытковых гаспадарак. У гэтым годзе працаўнікі аграпрамысловага комплексу вырашылі дабіцца лепшых вынікаў.

**Мрожэк на менскіх падмостках**

Сакавік пачнецца ў Тэатры імя Янкі Купалы прэм'ерай спектакля „Чароўная ноч" па п'есе Славаміра Мрожка. Яго пастаноўка на малой сцэне была даверана маладым рэжысёрам — Дзмітрыю Марыніну і Дзмітрыю Саладуху. Другая прэм'ера адбудзецца 12 сакавіка, але ўжо на вялікай сцэне. На суд гледачоў будзе прадстаўлена чарговая рэжысёрская работа Мікалая Пінігіна — спектакль „Касцюмер", пастаўлена па п'есе Рональда Гарвуда. Гісторыю аб нялёгкім, поўным драматызму акцёрскім лёсе раскажуць Мікалай Яроменка (старэйшы) і Віктар Манаеў. А 22 сакавіка соты раз будзе паказаны спектакль „Смех лангусты", у якім праявіліся ўсе грані таленту Зінаіды Браварскай.

**Сустрэча з біятланістамі**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з членамі нацыянальнай мужчынскай каманды па біятлоне, якія паспяхова выступілі на чэмпіянаце свету і высока пранеслі сцяг беларускага спорту. Асабліва вызначыўся Алег Рыжанкоў з Магілёва, які стаў героем сусветнага першынства ў Славакіі, дзе ён заваяваў увесь камплект медалёў.

**Змяненні на карце**

Картографам хутка прыйдзецца ўнесці змяненні на геаграфічнай карце рэспублікі. На Полаччыне выраслі пасёлкі Міжрэчча і Любава. Пабудова населеных пунктаў на Віцебшчыне, на жаль, стала з'явай вельмі рэдкай. Часцей адбываецца наадварот. Штогод у гэтай вобласці прыходзіцца спісваць па 40-50 абязлюдзелых населеных пунктаў.

# Да юбілею арлянскіх пажарнікаў

**У гэтым годзе мінае 75 гадоў з дня заснавання пажарнай каманды ў Орлі. Юбілей гэта слаўны і павінен радаваць усіх. Аднак найчасцей гутарка пра пажарнікаў заводзіцца толькі тады, калі ўстарэлай тэхнікай не ўдаецца ім патушыць пажар і даходзіць да трагедыі. Некалькі гадоў таму 150 м ад дэпо згарэў драўляны будынак з чалавекам усярэдзіне. Год пазней падобная трагедыя здарылася ў Кашалях. Здаецца, што крытычная сітуацыя арлянскіх пажарнікаў мала цікавіць самаўрадавыя ўлады.**

Пажарная каманда ў Орлі была заснавана ў 1922 годзе, а першым яе камендантам стаў Фама Нестаровіч. Неўзабаве на яе аснове ўзнік духавы аркестр. Пасля II сусветнай вайны пажарнікаў узначальваў Сцяпан Мартыновіч. Была ўжо ў іх тады свая машына маркі „Штудэр". У 1956—1962 гадах пажарнікі пабудавалі новае мураванае дэпо з вежай для шлангаў. Неўзабаве атрымалі пажарную машыну „Стар", а затым „Стар 21". Начальнікамі пажарнікаў былі яшчэ Ян Цымбалюк і Уладзімір Паплаўскі, а з 1974 года з'яўляецца ім Мікалай Тхарэўскі.

Не палепшылася сітуацыя пажарнікаў пасля іх пераходу ў пачатку 1990-х гадоў пад апеку гмінных самаўрадавых улад. Замест купіць пажарную аўтамашыну і новае аснашчэнне, да існуючага дэпо былі дабудаваны два гаражы, у якіх стаяць гмінныя экскаватар і аўтобус. Частка памяшканняў здадзена ў арэнду ветэрынару, які адкрыў тут сваю лячэбніцу (хаця насупраць знаходзіцца пункт скупкі малака). Яшчэ нядаўна ў пажарнай святліцы ладзіліся танцавальныя вечарыны, дыскатэкі і сходы, а цяпер, як кажуць самі пажарнікі, там усыпляюць сабак.

25 студзеня г.г. у Гмінным асяродку культуры (а не ў святліцы дэпо) адбылася сустрэча пажарнікаў з намеснікам раённага каменданта Пажарнай аховы з Бельска-Падляшскага капітанам Шкодам. На ім пажарнікі скардзіліся, што ўлады ставяцца да іх абыякава, што ўстарэлая тэхніка не дазваляе ім аператыўна і паспяхова праводзіць выратавальныя акцыі, што неадкладна патрэбна ім новая пажарная аўтамашына. Амбітныя пажарнікі абавязаліся грамадскім пачынам адрамантаваць сходы ў вежы, перакрыць дах дэпо і добраўпарадкаваць пляц вакол будынка. Вырашэнне астатніх пастулатаў залежыць ужо не ад іхнай волі, але ад рашэнняў улад.

Добраахвотная каманда ў Орлі налічвае 23 дзейсных пажарнікаў і каля дзесяці ветэранаў. Год таму старшынёю Гміннага праўлення Добраахвотных пажарных каманд стаў арлянец Міраслаў Бала. Дзякуючы ягоным стараням апошнім часам былі куплены два брандспойты (prądownice), чатыры засцерагальныя плашчы і некалькі касак. Хочацца верыць, што ў юбілейным годзе пажарнікі атрымаюць не толькі медалі і віншаванні, але і сучасную тэхніку.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*



## Засталося толькі чакаць!

У канцы 1995 г. у „Ніве" друкавалася мая публікацыя „Ці дачакаюся тэлефона?" Зараз жыву надзеяй, што мары мае збудуцца. Як мне сказалі ў гайнаўскай тэлекамунікацыі, у гэтым годзе праводзіцца мадэрнізацыя АТС у Гайнаўцы. Калі яна закончыцца тэрмінова, наступнай у чарзе будзе чаромхаўская пошта. Ужо зараз можна падаваць заявы на ўстанаўленне тэлефона ў хаце.

А пакуль што, для выгады жыхароў тэлекамунікацыя паставіла на вакзале ў Чаромсе таксафон, з якога можна званіць па ўсёй краіне, карыстаючыся магнетычнай картай.

Гэта сапраўды вялікая дабрадзейнасць. Не трэба ўжо ісці і марочыць галаву суседу, каб дазволіў пакарыстацца хатнім тэлефонам. Свайго тэлефона трэба мне яшчэ крыху пачакаць. **(ус)**

## Бамбовы жарт

27 лютага ў 8.10 у Агульнаадукацыйны ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску патэлефанавалі: „У школе бомба!" Паліцыя загадала вывесці моладзь з будынка. Пасля праверкі выявілася, што быў гэта жарт.

З жартаўніком гаварыла сакратарка, Клаўдзія Сліўка:

— Хлапечы голас у трубцы сказаў, што бомба знаходзіцца на першым паверсе. Калі я выйшла паведаміць настаўнікам, каб выводзілі класы, у адным канцы калідора было цёмна. Я ўключаю святло, а яно не запальваецца. Ну, думаю сабе, сапраўды бомба. А тут якраз не было фазы.

— Мы скантактаваліся з паліцыяй, — расказвае дырэктар, Зінаіда Навіцкая, — і сталі апаражняць ліз будынка. Калі давялося выводзіць вучняў зверху, я пачала нервавацца. Ведаеце, моладзь як моладзь, усюды хочуць заглянуць, прыпыняюцца, сядаюць на сходах, завязваюць шнуроўкі.

Трэці паверх, над ліцэем, займае Пачатковая школа № 3. Яна такама мусіла перавесці сваіх вучняў у другое крыло будынка. У „тройцы", аднак, заняткі праходзілі без перабою. Ліцэй пачаў працу а дзесятай. Адбыліся ўсе ўрокі, толькі па пяць мінут карацейшыя.

Два тыдні раней у прыбіральні іншай бельскай школы знайшлі ўзрыўчатку хатняга вырабу (чытайце: „Найгорш настаўнікам" на 5 стар.), а побач школы — гранату (на шчасце, раззброеную). Ці гэта пачатак серыі бамбовых „жартаў" у Бельску? **М. В.**

## З усіх бакоў абдурваюць!

На тэрыторыі Кляшчэлеўскай гміны многія жыхары Кузавы маюць сваі палі. Сенажаці Міхася Б. знаходзяцца непадалёк чыгуначнай станцыі. Некалькі гадоў таму назад у Кляшчэлях праводзілася камасацыя. Многім сялянам былі заменены гаспадаркі. Замянілі і сенажаці Міхасю Б. Яго даўнейшую дзялянку прызначылі некаму іншаму, а яму далі ў другім месцы. Пасля замены гаспадарка Міхася Б. паменшылася. Аднак плацежныя даручэнні гміна пасылае па-даўнейшаму.

Гаспадар прабаваў высветліць справу ў гміне. У Чаромсе яму сказалі, што з Кляшчэляў не прыслалі службовага пісьма аб зменах пасля камасацыі. Працаўніца адказная за гэтыя справы паслала прашэнне ў кляшчэлеўскую Гмінную ўправу, каб тыя прыслалі патрэбны дакумент. Ужо год мінуў, а адказу з Кляшчэляў не атрымала ні гміна ў Чаромсе, ні гаспадар.

У палове лютага Міхась Б. паехаў у геадэзію ў Гайнаўку, каб толкам ва ўсім разабрацца. І даведаўся:

— Кляшчэлеўская гміна не магла даць адказу ў Чаромху, — паясніў геадэзіст, — бо мы ім не пераслалі рэестра змяненняў.

— Дык чаму так доўга працягваецца справа? У мяне паменшылася сенажацяў на паўгектара, — тлумачыць гаспадар. — Дайце мне пісульку і я сам у гміну завязу...

— Не маем права. Дакументы яшчэ не ўступілі ў законную сілу. Беласток грошай на гэта не мае.

— Дзіўная справа, — кажа Міхась Б. — Мой знаёмы перапісаў гаспадарку і яму пасведчанне ў Ваяводскай управе выдалі па новай камасацыі. Ад гаспадароў у гмінах здзіраюць грошы па-даўнейшаму. І каму паскардзішся?!

* * *

У той жа дзень я сустрэў у Гайнаўцы ў геадэзіі свайго даўнейшага калегу па рабоце Дзмітрыя О. з Зубачоў. Ён таксама прыехаў сюды, каб разабрацца ў дакументах. Яму „прыпісалі" ў гміне каля чатырох гектараў поля.

— Ведаеце, Валодзька, — кажа калега, — зямлі няма — кепска, а як яна ёсць — дрэнна. На ўсіх д'яблаў чалавеку трэба рабіць. Кожны з усіх бакоў цябе абдурвае, няма каму паскардзіцца...

* * *

Калі я пакідаў кантору раённай геадэзічнай службы ў Гайнаўцы, мой сябрук вымушаны быў чакаць чыноўніка, які пайшоў у клініку да лекара. Ніхто не ведаў, калі ён вернецца. А селяніну трэба яго чакаць, каб нешта даведацца, што тварыцца ў геадэзічным балагане. Не пачакаеш, другі дзень трэба страціць і трыццаць лішніх кіламетраў пераадолець. Так гэта ўжо бывае ў час тварэння новага парадку.

**Уладзімір Сідарук**

## Прываблiванне кліента

*Два разы ў год выязджаю з сынам на даўжэйшую пабыўку ў Беласток. Для жыхара правінцыйнай Гайнаўкі ёсць тады нагода панаглядаць за буйным развіццём капіталізму, які ў канцы 80-х гадоў успыхнуў у нас базарным гандлем. Цяпер гандаль з тратуараў і міні-базараў перанёсся ў крамы, якія найчасцей сталі прыватнымі. Некаторыя вялікія магазіны ці кнігарні, асабліва ў цэнтры горада, засталіся на старым месцы. Іншыя памянялі асартымент тавараў, аднавілі інтэр'ер, упрыгожылі вітрыны. Узніклі таксама новыя гандлёвыя аб'екты, напрыклад, аўтасалоны ці закусачная МакДоналдс. Аднак найбольшае ўражанне выклікаў у мяне гандлёвы комплекс „Марко", у якім усё зроблена з думкай пра кліента.*

*З цэнтра горада можна туды дабрацца бясплатна на адмысловым фірменным аўтобусе, які адпраўляецца кожныя сорак мінут. Па дарозе што і раз сустракаем рэкламныя стэнды, чуваць рэкламу па радыё, аж урэшце заўважаем аграмадны чырвоны паветраны шар з надпісам „Марко", які лунаў высока над зямлёй. Калі выходзім з аўтобуса, да вушэй далятае прыемная музыка. З магазіна выязджаюць кліенты з вазкамі поўнымі тавараў і перагружаюць іх у багажнікі сваіх аўтамашын.*

*Ля ўвахода ў галоўны зал кліентаў чакаюць звыш ста счэпленых між сабою вазкоў, але каб адчапіць адзін ад аднаго, трэба ўкінуць адназлатовую манету, якую атрымаем назад пасля заканчэння пакупак. Сумкі і чамаданы можна пакінуць у камеры для захавання багажу. На месцы можна напіцца кавы, гарбаты або шакаладу з аўтамата. Пакупнікоў абслугоўвае 17 кас. Каб наведаць усе секцыі велізарнага магазіна, трэба патраціць прынамсі паўтары гадзіны.*

*Ходзячы між паліцамі звярнуў я ўвагу на падвешаныя пад дахам трубы кандыцыянера, які забяспечвае адпаведную тэмпературу ў памяшканні. Сядзеў на іх адзінокі верабей. Відаць, выпадкова папаў ён сюды, але наракаць на сваю долю не павінен, хіба што застрэліць яго ахова аб'екта. Мае бядняга чым паласавацца, бо апынуўся ён у секцыі цытрусавых фруктаў. А экзатычнага тавару — мноства. Мне самому ўпершыню давялося тут пабачыць авакада, папаю, ядомы каштан і іншыя. Фрукты можна выбіраць і важыць самому.*

*У мясной секцыі тавар у адпаведнай упакоўцы ляжыць на паліцах і кліенты могуць самі выбіраць патрэбны ім асартымент. За касамі знаходзіцца куток для дзяцей, якія могуць у ім правесці час, калі бацькі заняты пакупкамі. У магазіне праводзяцца розныя рэкламныя акцыі. У гэты дзень дзве элегантныя дамы расхвальвалі вадкасці для мыцця. Кліенты могуць карыстацца прыбіральняй, у якой пануе ідэальная чысціня, ёсць цёплая вада, мыла і электрычная сушылка для рук — і ўсё гэта задарма.*

*Купіў я нямнога, усяго на сорак злотаў. Але іншыя пакупнікі вывозілі тавару на некалькі соцень. Увесь час пакупнікам спадарожнічае меладычная, прыцішаная музыка, а абслуга паводзіць сябе культурна і далікатна. Адным словам, прыемна тут выдаваць грошы.*

*Па ўсім відаць, што супермаркет „Марко" арганізаваны паводле заходнееўрапейскага стылю. Майстэрства прываблівання кліента тут пастаянна ўдасканальваецца.*

***Славамір Кулік***

# Фабіян Акінчыц

Здаецца, не было іншага дзеяча беларускага нацыянальнага руху, якога кляймілі б „фашыстам" і „здраднікам" і камуністы, і нацыяналісты. Яны абвінавачвалі Фабіяна Акінчыца ва ўсіх смяротных грахах і, як здаецца, не заўсёды справядліва. У біяграфіі Акінчыца шмат супярэчлівых фактаў, і некаторыя яе старонкі так і застануцца невядомымі нам. Ён часта мяняў арыентацыю, супрацоўнічаў з тымі ўладамі, якія давалі грошы на беларускі рух або абяцалі „вырашыць беларускае пытанне". Пры гэтым Фабіян Акінчыц заставаўся беларускім патрыётам, якому, відавочна, перашкаджалі непамерныя амбіцыі. Таямніцай застаецца для нас і ягоная смерць у акупаваным немцамі Менску.

* * *

Фабіян Акінчыц нарадзіўся 20 студзеня 1886 года ў вёсцы Акінчыцы каля Стоўбцаў. З гэтых мясцінаў (Стоўбцы, Новы Свержань) паходзіць шмат актыўных дзеячаў беларускага нацыянальнага руху часоў II сусветнай вайны: Юры Сабалеўскі, Аляксей Сянкевіч, Віктар Чэбатарэвіч, Мікола Шварц ды іншыя.

Здабываць навуку Ф. Акінчыц паехаў у Пецярбург, дзе паступіў на юрыдычны факультэт універсітэта. Там ён увайшоў у партыю эсэраў, дзе займаў, па пазнейшаму ўласнаму сцвярджэнню, „адказныя становішчы". У 1913 годзе Фабіян Акінчыц скончыў універсітэт ды пачаў працаваць адвакатам.

Біяграфія Акінчыца да 1923 г. поўная „белых плям" і супярэчлівасцей. У 1917 годзе ён працаваў міравым суддзёй, але дзе — невядома. Пасля бальшавіцкага перавароту Ф. Акінчыц нібыта выехаў у Кіеў, працаваў там звычайным рабочым на фабрыцы, а пасля — настаўнікам. Аднак, па версіі Б. Тарашкевіча, Акінчыц „рабіў у Ноўгарадзе на адказным палітычным становішчы, сышоў затым у прыватнае жыццё, а пазней паехаў у Польшчу". Гэтыя „цёмныя" старонкі біяграфіі Фабіяна Акінчыца і далі падставу яго палітычным апанентам сцвярджаць, што ён быў супрацоўнікам ГПУ.

У 1923 г., „не могучы далей зносіць бальшавіцкіх парадкаў", Ф. Акінчыц едзе ў родныя мясціны, якія знаходзіліся пад польскай уладай. Спачатку ён працаваў дырэктарам пачатковай школы ў вёсцы Засулле, пасля адкрыў сваю юрыдычную практыку ў Стоўбцах.

Адразу пасля арганізацыі Беларускай сялянска-работніцкай грамады Ф. Акінчыц уступіў ў яе шэрагі. Дзякуючы падтрымцы свайго земляка і сябра, пасла польскага Сейма Ю. Сабалеўскага, ён узначаліў юрыдычны аддзел Цэнтральнага сакратарыята БСРГ. Акінчыц пераехаў на пастаяннае жыхарства ў Вільню. Ён становіцца кіраўніком Віленскага гарадскота камітэта Грамады, працаваў сакратаром грамадоўскага Беларускага пасольскага клуба. Акрамя таго, Ф. Акінчыц з'яўляўся актывістам Таварыства беларускай школы, быў сябрам яго галоўнае ўправы. На ўсіх гэтых становішчах ён самаахвярна працаваў аж да свайго арышту польскай паліцыяй.

Пасля масавых арыштаў польскай паліцыяй актывістаў БСРГ у студзені 1927 года, Акінчыц апынуўся на Лукішках, дзе сядзеў разам з Астроўскім, Бурсевічам, Валошыным, Мятлой, Рак-Міхайлоўскім, Тарашкевічам. Неўзабаве іх перавялі ў Вронкі. Па сведчанню Тарашкевіча, Фабіян Акінчыц трымаўся мужна і быў упэўнены ў сваім хуткім вызваленні. Але ў траўні 1928 г. ён атрымаў па прысуду польскага суда восем гадоў турмы. Знаходзячыся ў польскай турме, Акінчыц піша палітычныя і эканамічныя працы, некаторыя з якіх пабачаць свет пасля яго вызвалення. У 1930 годзе Акінчыц выйшаў на волю паводле распараджэння прэзідэнта Польшчы І. Масьціцкага.



*Уладзіслаў Казлоўскі і Фабіян Акінчыц.*

Пасля вызвалення Ф. Акінчыц уваходзіў у Цэнтрасаюз Астроўскага і Луцкевіча, удзельнічаў у выданні газет „Наперад" і „Беларускі Звон". Ён адмовіўся ад прапановы прадстаўніка Камінтэрна выехаць у СССР і выступіў супраць сваіх былых сяброў па Грамадзе, і ў першую чаргу супраць Б. Тарашкевіча. Акінчыц абвінаваціў іх у тайных ад сяброў Грамады сувязях з бальшавікамі. Выглядае так, што да арышту ён не ведаў пра цесныя сувязі Тарашкевіча з Камінтэрнам і Масквой. Яго, як антыкамуніста, не дапускалі да кіраўніцтва БСРГ, нягледзячы нават на тое, што ён быў старшынёй Віленскай (сталічнай) арганізацыі. Адна за другою пачыналі выходзіць публіцыстычныя працы Акінчыца: „Чаму гэта так сталася? (Да справы выезду за граніцу былых правадыроў Грамады)" (Вільня 1931), „Правакацыя беларускага народу: (Да справы б. старшыні Грамады Б. Тарашкевіча)" (Вільня 1933).

У 1931 годзе Фабіян Акінчыц выйшаў з Цэнтрасаюза і арганізаваў прапольскую Віленскую беларускую групу „Адраджэнне", але неўзабаве вярнуўся ў Стоўбцы. Будучы выдатным арганізатарам, ён ініцыіраваў стварэнне Беларускага таварыства дабрачыннасці ў Стоўбцах, якое займалася культурна-асветнай дзейнасцю. З 1933 г., як яго старшыня, Ф. Акінчыц прадстаўляў таварыства ў віленскім Беларускім нацыянальным камітэце. Як пісаў сам Акінчыц, у гэты час ён „шукае спосабаў для вырашэння беларускай справы шляхам паразумення з польскім гра-

[працяг ☞ 10]

# Літвіны, заходнерусы..., беларусы

[1 ☞ *працяг*]

асветніцкі сектар дзяржаўнай паліцыі. Беларускасць, аднак, выступала тут у кантэксце акрэслення геаграфічна-культурнага абшару як часткі расейскай супольнасці, таксама як для шляхты літоўскасць, з якою асацыявалася ўся спадчына Рэчы Паспалітай. У палове XIX стагоддзя на Беларусі нарадзіліся дзве інтэлектуальныя плыні, якія ў выніку эвалюцыйнага працэсу зліліся пасля ў адну беларускую нацыянальную ідэю. Паколькі праваслаўныя і каталікі з прычыны рэлігійнага характару жылі як бы ў нейкай духовай ізаляванасці ад сябе, тады і нацыянальная думка гэтых асяроддзяў фарміравалася іншымі шляхамі. Сярод праваслаўных беларусаў папулярная была ідэалогія г.зв. заходнерусізму. Заходнерусы супадалі з асноўнымі тэзісамі царскай канструкцыі рускага народа, які складалі тры рэгіянальна-культурныя супольнасці — велікарусы (расейцы), маларусы (украінцы) і заходнерусы (беларусы). Галоўны ідэолаг гэтага руху — Міхал Каяловіч — дамагаўся між іншым беларускай мовы ў школах і ўрадавых установах на Беларусі, а таксама радыкальнай аграрнай рэформы ў выглядзе ліквідацыі вялікай маёмасці і падзелу зямлі паміж сялян. Гэты апошні пункт быў не толькі вынікам грамадскага радыкалізму заходнерусаў, што іх разважанняў вакол нацыянальных спраў. Выходзілі яны з пункту гледжання, што вялікая маёмасць знаходзіцца перш за ўсё ў руках палякаў, якіх лічылі чужымі і варожымі рускай нацыі. Некаторыя нават разважалі пытанне прымусовага перасялення палякаў „у Польшчу". Царская палітыка была больш памяркоўная, чым прапановы заходнерусаў. Дзяржаўны апарат больш улічваў як палітычны фактар палякаў-каталікоў, чым праваслаўных беларусаў-заходнерусаў. Тым не менш гэтыя апошнія выступалі ад імя 80-ці працэнтаў насельніцтва Беларусі і гэты факт рашуча паўплываў на будучую беларускую нацыянальную ідэалогію, а перш за ўсё на адлучэнне яе ад псіхалагічна-культурнага польскага кантэксту і традыцый Рэчы Паспалітай. Трэба было яшчэ дзесяткаў гадоў, каб заходнеруская плынь знайшла адпаведныя матывы для адарвання ад універсальнай рускасці.

У каталіцкім асяроддзі каранёў беларускага адраджэння можна шукаць прыблізна ў тым самым перыядзе, што і ў праваслаўным. Усё пачалося ад таго, што сыны апалячанай шляхты зацікавіліся гісторыяй сваіх родаў, мясцовасцей, культурнай спадчынай зямлі, на якой жылі, мовай люду, іншай чым мова іх бацькоў. З іх пункту гледжання, адкідаючы тэзіс пра асіміляцыю беларускай шляхты, трэба было адобрыць ідэалогію заходнерусаў, якая гаварыла, што ўсе каталікі-палякі з'яўляюцца чужынцамі на беларускай зямлі. Шмат інтэлігентаў шляхецка-каталіцкага паходжання, якія пачалі ўглыбляцца ў мінуўшчыну, усвядоміла сабе генеалагічную сувязь з іншай культурай чым тая, у якой іх выхавалі бацькі. Не перасталі яны быць палякамі, але найбольш ахвотна спасылаліся на легенды Вялікага княства Літоўскага, міфы „тутэйшасці", „краёвасці".

Ян Чачот (1796—1847), які без ніякага сумнення адчуваў сябе палякам, пісаў аднак, што мова беларускага люду спалучаецца з гісторыяй гэтай зямлі і яна стагоддзямі фарміравала менталітэт усіх жыхароў Вялікага княства Літоўскага.

Вінцук Дунін-Марцінкевіч (1808—1884), які пісаў на беларускай мове, адчуваў сябе таксама чалавекам польскай культуры і адначасова літоўскага (беларускага) паходжання. Як шляхціц, не быў ён у змозе перасячы псіхалагічны бар'ер, які не дазваляў яму ўвайсці ў гэтую псіхалагічна-культурную стыхію, у якой знаходзілася сялянства.

Такіх праблемаў не мела інтэлігенцыя, якая адарвалася ад засценка і яго традыцый. Францішак Багушэвіч (1840—1900), хаця не меў амаль ніякага эмацыянальнага дачынення да беларускай ідэалогіі, па прычыне салідарнасці з сялянскім асяроддзем, якое лічыў асноўным этнасам Беларусі, напісаў славутую фразу: „не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі". Багушэвіч не толькі пісаў на беларускай мове, але ў адрозненні ад Дуніна-Марцінкевіча лічыў яе „нашай".

Пры канцы XIX стагоддзя з'явілася ўжо маладое пакаленне беларускай інтэлігенцыі, якое не было вымушана так як Чачот, Марцінкевіч, Багушэвіч ставіць сабе пытанняў і самім шукаць адказаў. Бацька братоў Луцкевічаў — Іван — быў сябрам і частым госцем Дуніна-Марцінкевіча. Праўдападобна маладыя Луцкевічы (каталікі) часцей дома чулі слова „беларус" чым „паляк". Ім ужо не трэба было пачынаць ад нуля, нацыянальнасць таксама ў інтэлектуальнай форме атрымалі ад бацькоў.

У пачатку 80-х гадоў студэнты-заходнерусы стварылі ў Пецярбургу некалькі гурткоў рэвалюцыйнага і асветніцкага накірунку. Былі гэта беларускія структуры ў расейскім народавольніцкім руху. Неўзабаве студэнты пачалі выдаваць адозвы, на рускай мове, да насельніцтва Беларусі. Загалоўкі адозваў — „Да беларускай моладзі", „Да беларускай інтэлігенцыі", „Пасланне да землякоў беларусаў" — сведчылі пра змену арыентацыі людзей з круга заходнерусаў. Аўтары гэтай публіцыстыкі, якія падпісваліся „Шчыры беларус", ці „Даніла Баравік", пераконвалі суродзічаў, што беларускі народ мае іншыя інтарэсы чым палякі і велікарусы, што Беларусь мае свае прыкметы і асаблівасці такія як этнаграфія, мова, менталітэт, культура ад жыхароў. У адозве „Да беларускай моладзі" аўтары звярталі ўвагу, што беларускі народ складае прыгнятаючую большасць насельніцтва свайго краю і ён менавіта павінен вырашаць пра лёс свой і свае краіны, а не чужыя — вялікарускія і польскія — памешчыцка-клерыкальныя эліты.

Калі ў 1902 годзе стваралася Беларуская рэвалюцыйная грамада, а пасля ў 1906 г. „Наша ніва", беларуская інтэлігенцыя гуртавалася вакол нацыянальнай ідэі, якую дзесяткамі гадоў, ідучы рознымі дарогамі, стваралі праваслаўныя і каталікі. Маладую інтэлігенцыю, нягледзячы на веравызнанне паасобных людзей, спалучала пачуццё супольных лёсаў з народам і свядомасць яго бязлітаснага прыніжэння чужынцамі.

**Яўген Міранович**

# Фальклор і сучаснасць

22 лютага г.г. прайшоў у Беластоку цэнтральны конкурс „Беларуская песня", арганізаваны Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Удзельнічала ў ім за семдзесят выканаўцаў з розных куткоў Беласточчыны. Спаборніцтвы цягнуліся ўвесь дзень.

Пераважалі ў конкурсе БГКТ фальклорныя матывы ў сваёй апрацаванай і неапрацаванай разнавіднасці. І гэта нармальна, бо беларуская песня ў жыцці чалавека з'яўляецца самым важным фактарам здзяйснення ягоных культурных памкненняў. Трапілі аднак у гэтае рэчышча і элементы, якія не ўпісваюцца ў распрапагандаваную Таварыствам схему беларускай культуры на Беласточчыне. На думку аўтара, да калектываў такіх у гэтым годзе належала „Лучына" з Нараўкі.

„Лучына" — гэта вакальна інструментальны ансамбль, які складае моладзь ліцэйская і каляліцэйская ўзросту. У цэнтральным конкурсе „Беларуская песня" гурт гэты праспяваў песню „Малітва" на словы верша Янкі Золака. Наконт свайго рэпертуару і артыстычнага ўпадабання ўдзельнікі калектыву заявілі, што „яны выконваюць такі рэпертуар, які ім падыходзіць". Любяць таксама апрацоўваць і фальклорныя песні, але перавагу аддаюць вышукоўванню ў фальклорнай спадчыне старых песень. Калі ідзе пра падборку паэтычнага матэрыялу, дык заяўляюць, што бібліятэкі, у якіх шукаюць, поўняцца наогул зборнікамі паэзіі Янкі Купалы, а ім вельмі ж цікава, калі трапляецца зборнік нейкага іншага беларускага паэта — гэтак было і з тэкстам Янкі Золака.

У сярэдняй школе, не сакрэт, з чалавека пачынаюць вылазіць ягоныя жыццёвыя схільнасці і здольнасці. Удзельнікі „Лучыны" не скрываюць, што кожны з іх нешта піша або складае музыку. Анеля Бяляўская і Кася Грудзінская ў восьмым класе Пачатковай школы ў Нараўцы; Кася Кічкайла, Альжбета Герасімюк і Агнешка Лукша ў першым класе *польскага* ліцэя ў Гайнаўцы; Аня Дрозд (на конкурс яна не даехала) у трэцім класе гэтага ж ліцэя; Кася Бяляўская студэнтка і вывучае гісторыю; Славік Харкевіч у матуральным класе; Тамаш Барташэвіч у трэцім класе прафесійнай школы ў Міхалове; Роберт Савіцкі гэтым часам беспрацоўны, але мае надзею, што нядоўга; Агнешка Беглюк — студэнтка беларускай філалогіі ў Варшаве і, як усе іншыя адзначылі, моўная аснова гурту. Усе яны расцярушаныя па сваіх штодзённых занятках, у сувязі з чым немагчыма праводзіць рэгулярныя рэпетыцыі. Рэпетыцыі аднак адбываюцца — перад планаванымі выступамі. Гурт „Лучына" сустракаецца ў Нараўчанскім доме культуры.

Журы цэнтральнага конкурсу „Беларуская песня" адзначыла „Лучыну" спецыяльнай узнагародай.

**Аляксандр Максімюк**




*„Лучына".* Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА

## „Беларуская песня" — некаторыя ўзнагароджаныя выканаўцы

**Жывы фальклор**

**Салісты:** Антаніна Сідарук, Еўдакія Маркевіч.

**Дуэты:** Вольга Кандратовіч—Анна Раманюк.

**Вакальныя калектывы:** „Арэшкі".

**Апрацаваны фальклор**

**Салісты:** Анна Бобік.

**Дуэты:** Люба Гаўрылюк—Уладзімір Іванюк.

**Вакальна-інструментальныя калектывы:** „Маланка", „Чарамшына", „As", „998".

**Вакальныя калектывы:** жаночы калектыў Гайнаўскага дома культуры, мужчынскі калектыў Гайнаўскага дома культуры, калектыў з Гарадка.

**Хоры:** хор Гайнаўскага дома культуры, хор Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

**Сучасна музыка**

**Салісты:** Ала Дубец, Агнешка Дамброўская.

**Дуэты:** Ірэна Пяткун—Іаанна Семяняка.

**Вакальныя калектывы:** „Дзявочыяноткі".

**Спецыяльныя ўзнагароды**

Калектыў з Рыбалаў, Ніна Цыванюк, „Лучына".

# З'езд БАСу

У суботу 22 лютага адбыўся чарговы З'езд БАСу. Беластоцкія і варшаўскія студэнты перавыбралі ўлады. Новым, доўгачаканым прэзідэнтам БАСу стаў Лукаш Стэпанюк, студэнт I курса беларускай філалогіі ў Варшаве. У Галоўную раду ўвайшлі: Юрка Шульскі (віцэ-прэзідэнт), Пятро Пракопчык (казначэй), Раман Варшыцкі, Аліна Каўбасюк, Андрэй Карчэўскі, Барбара Мусюк, Міраслаў Пац, Галіна Сідарук-Сідорская, Юрка Сульжык. Рэвізійную камісію складаюць: Марко Заброцкі, Агнешка Беглюк, Міраслаў Ваўранюк.

БАС праводзе сёлета традыцыйныя мерапрыемствы: „Басовішча", рэйд „Бацькаўшчына" (у Варшаве разам з „Басаўкай"). Думаецца таксама аб адраджэнні „Сустрэч" і выданні новага спеўніка.

Ніколі БАС не меў такога маладога кіраўніцтва. Ёсць надзея, што калі яно пасталее, вернецца колішняя магутнасць студэнцкай арганізацыі, аб якой не могуць забыць ветэраны.

**Алег Латышонак**

# Найгорш настаўнікам

У прыбіральні Комплексу механічных школ у Бельску паліцыя нядаўна раззброіла бомбу хатняга вырабу. Яе моц паражэння не была вялікая, але, як сказаў следчы: „Калі б хто сеў на ўнітаз, яйцы адарвала б". Некалькі дзён пазней каля гэтай самай школы знайшлі гранату. На шчасце, выбухнуць не магла, бо была без запальніка. Тым не менш, асістэнт па справах малалетніх і абароны сям'і Раённай камендатуры ў Бельску-Падляшскім, старшы сяржант **Гражына Акштульская** лічыць, што на яе тэрыторыі няма праблемы сарганізаванай злачыннасці моладзі.

Бельскі паліцыйны раён абымае таксама Сямятычы. Рашучая большасць злачынстваў і парушэнняў правапарадку мае месца ў трох гарадах: Бельску, Сямятычах і Браньску. Найчасцей маем тут дачыненне з крадзяжом маёмасці, узломамі і разбоямі. Калі ідзе пра моладзь, колькасць такога тыпу выпадкаў расце восенню, з пачаткам навучальнага года. На канікулах робіцца тут амаль зусім спакойна.

Пасля 1989 года злачыннасць у раёне, як і ва ўсёй краіне, рэзка расла. У тым ліку таксама сярод малалетніх. Найгоршы быў 1994 год. Раённая камендатура паліцыі ў Бельску зарэгістравала ў згаданым годзе 206 правіннасцей з удзелам малалетніх, што склала амаль 10% ад усіх правапарушэнняў. Год пазней гэтая статыстыка прадстаўлялася ўжо такім чынам: 91 праціпраўных дзеянняў — 4,5%. Летась наглядалася яшчэ зніжэнне: 75 правіннасцей — а гэта 4,1% ад агульнай колькасці парушэнняў правапарадку. З чым звязана гэтая, здаецца, трывалая тэндэнцыя?

— Змяніўся стыль працы паліцыі, — кажа Гражына Акштульская, — мы цяпер не толькі ловім бандытаў, але і вядзем прэвентыўную працу, стараемся прадухіліць правапарушэнні. Мая пасада была створана толькі ў 1993 годзе. З тае пары я правяла многа сустрэч у школах, з вучнямі, бацькамі, азнямляю іх з крымінальным кодэксам, вяду гутаркі аб праблемах наркаманіі і алкагалізму. Моладзь у час такіх сустрэч актыўная, задае шмат пытанняў. Некаторыя, як аб насіллі ў сям'і, алкагалізме, фінансавых цяжкасцях, толькі ананімна альбо ў прыватнай размове. Я супрацоўнічаю з Гарадскім асяродкам сацыяльнай апекі, з антыалкагольнай кансультацыяй, пракурорамі, судовымі куратарамі для малалетніх. Лічу, што мая праца дае эфект.

Па даручэнні Галоўнай камендатуры, паліцыя ва ўсёй краіне ажыццяўляе прэвентыўную праграму „Бяспечны горад". Мае яна на мэце стварэнне грамадзянам пачуцця бяспечнасці ў сваім горадзе, мікрараёне, ваколіцы. Паліцыя выходзіць да людзей, стараецца выклікаць у іх давер, заахвоціць да супрацоўніцтва ў барацьбе са злачыннасцю. Пашырае веданне права ў грамадстве.

— Праграма някепская, — лічыць Гражына Акштульская, — па прыкладзе нямецкай ці амерыканскай. Адно там маюць грошы на яе рэалізацыю, а мы не вельмі. Але ў адносінах да моладзі і так найважнейшая роля бацькоў. Трэба дзецям верыць, але час ад часу не пашкодзіць і пацікавіцца, што яны маюць у кішэнях ці торбах, куды вечарамі ходзяць, што глядзяць на відэа. Бацькі павінны быць свядомыя пагроз, якія чакаюць іх дзяцей. Хаця ў нас не трэба падымаць нейкай істэрыкі. Я ў сваёй працы не спаткалася з выраджэнскімі злачынствамі. Няма ў нас маладзёжных субкультур, хаця часамі той-сёй носіць нейкія адзнакі. Няма сарганізаваных бандаў — раз толькі пабіліся між сабою два суседнія мікрараёны Бельска, але ўсё разышлося нават без судовай справы. Найчасцей, гэта хуліганскія выбрыкі. Найцяжэй настаўнікам, бо пераважна супраць іх паварочваецца хваля сучаснага вандалізму, грубіянства, браку пашаны аўтарытэтаў. Моладзь, проста, не слухаецца.

**Мікола Ваўранюк**

# Радзілі выдаўцы

8 лютага ў сядзібе рэдакцыі „Нівы" прайшоў сход Праграмнай рады тыднёвіка. Прысутнічалі: Барбара Пякарская, Пятро Юшчук, Пятро Крук, Ян Максімюк, Славамір Іванюк, Валянцін Сельвясюк — старшыня Рады, а таксама галоўны рэдактар Яўген Міранович і журналісты: Ада Чачуга, Алег Латышонак і Аляксандр Максімюк.

Папярэдняя сустрэча Рады адбылася амаль дакладна год назад — 29 студзеня 1996 года.

Пра галоўныя падзеі ў жыцці тыднёвіка на працягу апошняга года расказаў галоўны рэдактар. Адной з самых важных падзей была змена памяшкання. Пасля доўгіх гадоў працы ў будынку па вуліцы Сураскай (раней Весялоўскага), рэдакцыя перанеслася на спакойную вулачку Заменгафа. Прычынай змены, у асноўным, былі фінансы, хаця нельга не ўспомніць і не заўсёды добрых адносін з гаспадарамі будынка на Сураскай — прафсаюзам „Салідарнасць". У новым памяшканні рэдакцыя адчувае сябе добра.

Ураджанні ўсіх членаў Рады ад новай сядзібы пацвердзілі добры выбар рэдакцыі.

На жаль, эканомія на чыншы няшмат паправіла фінансы тыднёвіка, паколькі рэальная сума дзяржаўнай датацыі не пабольшылася. Тым не менш, год удалося зачыніць без даўгоў. Датацыя на 1997 год забяспечвае асноўныя расходы, звязаныя з выдаваннем газеты. Удалося зэканоміць таксама сродкі на выданне дзвюх кніжак (будуць гэта „Дзённікі" Сакрата Яновіча і „Гісторыя Беларусі" Віктара Ярмалковіча).

Будзе працягвацца праца на г.зв. „варштатах «Зоркі»" — адукацыйна-мастацкай праграме для дзяцей. Ініцыятаркай і галоўным стваральнікам гэтай праграмы з'яўляецца журналістка „Нівы" Ганна Кандрацюк-Свярубская. Праграма не абмяжоўваецца ано да „Нівы". У вялікай ступені фінансуецца яна са сродкаў варшаўскага Фонду дзяцей і моладзі (Polska Fundacja Dzieci i Młodzieży).

Няма яшчэ поўнага фінансавага забеспячэння конкурсу паэзіі і прозы, падсумаванне якога плануецца на май.

У дыскусіі над зместам тыднёвіка не было згоднасці, кім з'яўляецца чытач „Нівы" і чаго ён чакае. Выказваліся розныя, часта супярэчлівыя меркаванні. У канцы, усе аднак згадзіліся, што большасць чытачоў „Нівы" звяртаецца да яе, перш за ўсё, з увагі на яе беларускасць, а не на змест.

На заканчэнне сходу старшыня Рады папрасіў прысутных разглядзець магчымасць змены на гэтай пасадзе, паколькі прафесійныя справы не дазваляюць яму прысвячаць дастатковай колькасці часу „Ніве".

Кандыдатам на старшыню прапанаваны быў Янка Максімюк, былы журналіст „Нівы", перакладчык і літаратар. Абяцаў ён перадумаць прапанову, а Рада вырашыла вярнуцца да гэтага пытання на наступным пасяджэнні ў маі.

**Валянцін Сельвясюк**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Сабачка

У нядзелю з базару,
тата мне прывёз падарак.
Гэта быў малы сабачка,
якога я чакала.
Ён чарнявы, шэры лапкі,
вушы доўгія як дзве латкі.
Ён са мной заўжды гуляе,
ад радасці хвастом махае.
Мы зрабілі яму буду.
Будзе ён цяпер там спаць,
а як вырасце вялікі,
стане двор наш пільнаваць!

**Ева Грынявіцкая**
**вуч. V кл. ПШ у Нарве**

## Нашы сябры з Саколкі



*Айцец Уладзімір Місяюк са сваімі навучэнцамі.*

Рэдка „Зорка" наведвае Саколку. Нядаўна, у сярэдзіне лютага, я мела гонар пазнаёміцца з цікавымі дзецьмі. Якраз ішоў урок праваслаўнай рэлігіі. Айцец Уладзімір Місяюк вельмі сардэчна ўспрыняў візіт „Зоркі". Святар прывітаў мяне на чысценькай беларускай мове. Айцец Уладзімір прадставіў мне сваіх навучэнцаў: Ева Маліцкая, Кася Чаховіч, Шыман Богдан і сёстры Ева і Кася Бжастоўскія. Усе яны вучні Пачатковай школы н-р 1 у Саколцы. На заняткі рэлігіі прыходзяць яны на плябанію. Там маюць нагоду не толькі пазнаёміцца з праваслаўнымі традыцыямі, але і пачуць мову сваіх продкаў.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

## Хітры вол

Пайшоў вол сена касіць. Косіць, завіхаецца, на неба паглядае: ці не відаць адкуль хмары? „За пагоду, — думае, — сена насушу, стог скідаю, тады і зіма не страшна".

Ідзе воўк. Загледзеўся на вала.

— Ты бык? — пытаецца.

— Не, я вол.

— Сена косіш?

— Кашу.

— Рагамі грабеш?

— Грабу.

— Хвастом падграбаеш?

— Падграбаю.

— А мяне ты не баішся?

Падумаў вол і кажа:

— Я не толькі цябе, а і двух такіх не баюся!

Паверыў воўк і пайшоў шукаць сабе падмогі.

Прыходзіць на другі дзень з двума братамі.

— Ты бык? — зноў пытаецца.

— Не, вол.

— Сена косіш?

— Кашу.

— Рагамі грабеш?

— Грабу.

— Хвастом падграбаеш?

— Падграбаю.

— А трох нас ты таксама не баішся?

Што валу рабіць? Давай ён далей хітрыць.

— Не толькі трох, — кажа, — а і чатырох не баюся.

Паверылі ваўкі і падаліся шукаць новых сяброў.

Доўга шукалі. Нарэшце прыходзяць на балота цэлаю чарадою. Глядзяць, а там ужо стог сена стаіць і вала не відаць.

Кінуліся ваўкі па следзе і прыбеглі да двара, дзе вол жыў. Двор вала высокім частаколам абгароджаны.

Круціліся, круціліся ваўкі, скакалі, скакалі, ды так да вала і не дабраліся.

— Ага, — закрычалі яны са злосці, — ты, баязлівец, схітрыў!

— Схітрыў ці не схітрыў, — адказаў вол, — а стог сена за пагодай накасіў. Ды і шкура ад вашых воўчых зубоў цэлая засталася.

І павалакліся ваўкі прэч, хвасты падцяўшы.

*(Са зборніка „Беларускі дзіцячы фальклор")*
*Малюнак Томка Дзямянюка*



## Гусіная зарадка

Раным-рана па парадку
гусі выйшлі на зарадку.

Гучным голасам гусак
загадаў рабіць ім так:

— Гусі,
зараз пацягусі!

Паглядзіце, як магу
я падняць сваю нагу:

лева-права, права-лева,
а цяпер бяжым да дрэва!

Шыі выцягнулі ўсе —
дзюбы мыем у расе!

Чарадою па двары
пройдзем, як гаспадары.

А пасля крыло і ножку
мы пацягваем па-трошку:

права-лева, лева-права,
мы заняты важнай справай!

Чысцім пёры і хвасты,
мае сёстры і браты.

Га-га-га! Вадой сцюдзёнай
абліваемся штодзённа.

І палошчам горла так,
як паказвае гусак!..

Стала весела Ганусі,
як зарадку робяць гусі.

— Ганна, стой! А ты куды?
— Да гусінай чарады!

**Ала Канапелька**



*Дзеці з Нараўкі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Пішуць школьнікі

# Ёлка ў Чыжах

Дарагая „Зорка"!

Вітаюць Цябе вучаніцы VII класа Пачатковай школы ў Чыжах. Хацелі б мы Табе расказаць пра нашу „ёлку", якая адбылася 24 студзеня 1997 года ў нашай школе. На пачатку, ад гадзіны $9^{00}$ да $11^{00}$ была артыстычная частка, у якой вучні гаварылі вершы, прадстаўлялі сцэнкі і „даўціпы", спявалі песні. Пасля прыйшоў Дзед Мароз і раздаваў падарункі. Пазней, да гадзіны $14^{00}$, была дыскатэка для малышоў (класы 0—IV), а пасля малышоў гулялі старэйшыя класы, у тым ліку і мы. У час забавы кожны клас арганізаваў сабе пачастунак. Апрача старэйшых класаў прыйшлі выпускнікі нашай школы. Усім вельмі падабалася „ёлка". На наступны год хацелі б мы запрасіць і Цябе.

**Юліта Гаўрылюк**
**Агнешка Качаноўская**

# Нарва над Нарвай

Нарву залажылі купцы з Бельска-Падляшскага, якія высылалі па рацэ Нарве драўніну і збожжа ў Гданьск. На пачатку мясціну называлі Рэчным Портам Бельска. Пазней ранг і значэнне Нарвы павялічыліся. Праз яе праходзіў шлях з Кракава ў Вільню.

У 1514 годзе Нарва атрымала гарадское права. Да Нарвы належалі таксама вёскі Тыневічы і Макаўка. Непадалёк Нарвы ў XVI ст. знаходзіўся праваслаўны манастыр.

У Нарве жыло многа яўрэяў. Яны складалі 50% жыхароў мясціны. Другая палова гэта праваслаўныя, каталікі і іншыя.

На пачатку XX ст. Нарве адабралі гарадское права, таму што жыло ў ёй менш за 700 жыхароў.

У час другой сусветнай вайны ўсіх яўрэяў немцы выслалі ў канцлагеры. Толькі адзін перажыў, але памёр у Ізраілі.

Цяпер Нарва — невялікая мясціна. Улады Нарвы хочуць зноў вярнуць гарадское права. Гэта мясцовасць развіваецца. Тут ужо многа новых жылых карпусоў. Жыццё Нарвы звязана цяпер з фірмай „Пронар".

*(рэпартаж узнік пасля VIII Сустрэч „Зоркі")*

**Міхась Стэпанюк, кл. VI „е"**
**Пачатковай школы № 3**
**у Бельску-Падляшскім**

*Наймалодшыя дэкламаткі з Гайнаўкі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Зімовыя канікулы

Пачаліся яны вельмі сумна і нецікава. Амаль цэлы сонечны панядзелак доўгачаканых канікул я правяла ў лекарскім кабінеце. Раніцай я хадзіла ў зубналячэбны кабінет, а ў поўдзень наведала артадонта. Я сумавала, думала, што цэлыя канікулы будуць няўдалыя. Нішто мяне не цешыла. Няшчасці ходзяць парамі — прапаў мой любімы кот, Сіўка.

На шчасце мае чорныя думкі не споўніліся. У пятніцу прыехала неспадзявана маміна хросніца — чатырохгадовая Наталька.

Бацькі яе здавалі цяжкія экзамены. Я пільнавала дзяўчынку, а яны вучыліся. Такім чынам засвяціла сонца і ў маё акенца. Са сваёй маленькай сваячкай я хадзіла на шпацыр. Чытала ёй беларускі пераклад „Дзіцячай біблії". З яе старонак дзяўчынка даведалася, як Ісус Хрыстос нарадзіўся, як жыў і як памёр за грахі людзей, як на трэці дзень уваскрос і падняўся на неба. Дзяўчынка вельмі любіць музыку. Мы слухалі касеты і пласцінкі. Шкада было расставацца са сваёй сімпатычнай таварышкай. Разнаколерны малюнак Натальці наводзіць мілыя ўспаміны.

У апошні дзень канікул я ездзіла ў Беласток на басейн для плавання. Я купалася амаль гадзіну. Я яшчэ не ўмею добра плаваць. Памагаў мне купальны круг.

Зімовыя канікулы мінулі непрыкметна. Усё мае канец, дні хмурныя і вясёлыя таксама. Перада мною некалькі месяцаў сур'ёзнай вучобы.

**Анна Аўсянюк**
**вуч. кл. VI „е" ПШ № 3**
**у Бельску-Падляшскім**

# Тутэйшыя

У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай у 1795 годзе гэтая дзяржава спыніла сваё існаванне. Беларусь амаль поўнасцю апынулася ў межах Расіі. Амаль тры мільёны чалавек, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі, аказаліся падданымі царыцы Кацярыны II. Уключэнне беларускіх земель у склад Расіі прывяло да вялікіх змяненняў у галіне эканоміі, грамадскай палітыкі і культуры. Побач паланізаваных беларускіх магнатаў, уладальнікамі вялікай маёмасці на Беларусі сталі царскія генералы і высокапастаўленыя ўраднікі. Гарады патрацілі права на самакіраванне, а прыгон пашыраўся паводле расейскага заканадаўства, якое дазваляла прадаваць сялян як тавар. Беларусь упершыню была падзелена на генерал-губернатарствы, губерні і вобласці.

Ад самага пачатку царскага панавання ў Беларусі вялася спрыяльная дваранству палітыка. З увагі на тое, што ў Беларусі большасць шляхты і арыстакратыі адчувала сябе палякамі, неўзабаве пачаўся працэс маланкавай паланізацыі грамадскага, асветнага, рэлігійнага і культурнага жыцця на гэтай тэрыторыі, але ўжо ва ўмовах расейскай дзяржаўнасці. Асабліва спрыяльныя ўмовы для гэтага ўзніклі пры панаванні Аляксандра I. Толькі пасля лістападаўскага паўстання 1830 года, калі царом быў Мікалай I, пачалася павольная русіфікацыя Беларусі. Гэты працэс інтэнсіфікаваўся пасля 1863 года, калі падаўлена было студзеньскае паўстанне.

Беларусь у другой палове XIX стагоддзя стала краінай заядлага змагання за душы нашага народа паміж палякамі і расейцамі. Першыя ўсіх каталікаў лічылі палякамі, другія ўсіх праваслаўных — расейцамі. З гэтай прычыны змаганне за нацыянальную свядомасць вялося з выкарыстаннем касцельных і царкоўных устаноў. Разгубленыя беларускія сяляне, якіх адны і другія заклікалі перайсці ў свой лагер, адказвалі ўсім: „мы — людзі тутэйшыя". Такім чынам „тутэйшасць" стала метадам абароны асноўнай масы беларускага насельніцтва перад каланіяльнай прапагандай.

# Вясёлы куточак

Коля мае дома ўсё, што захоча, але вучыцца вельмі дрэнна. Бацька аглядае яго школьнае пасведчанне ды ўздыхае:

— Калі я быў дзіцём, не было ў мяне ні веласіпеда, ні тэніснай ракеткі, ні мяча...

— Вось бачыш, татка, — кажа Коля, — са мною табе намнога лепш!

* * *

Янка паказвае бацьку сшытак, у якім стаіць дрэнная ацэнка.

— Скажы мне, — пытае сярдзіта бацька, — што ты папраўдзе робіш на ўроках?

— Наогул чакаю званка.

* * *

— Ці настаўнік яшчэ не пазнаў, што я памагаю табе рашаць хатнія задачы? — пытае бацька сына.

— Не, толькі гаворыць, што я раблюся штораз дурнейшы.

* * *

— А ну пакажы сваё школьнае пасведчанне, — звяртаецца бацька да сына.

— Пазычыў сябру, бо ён хоча перапалохаць свайго бацьку.

* * *

Размаўляюць два вучні:

— Пісалі мы практыкаванне па анатоміі і Кавальскі атрымаў двойку.

— Чаму?

— Спісаў! Настаўніца прыкмеціла, як лічыў сабе рэбры.

* * *

На ўроку фізікі настаўніца заварыла ваду на плітцы і пытае Стася:

— А цяпер скажы мне, што гэта такое пара?

— Пара, пара... Гэта вада, якая пацее ад гарачыні.

* * *

Выхавацелька вызвала Андрэйкаву маці ў школу:

— Андрэйка вельмі слабы па геаграфіі.

— Нічога; мы і так не ездзім на ніякія экскурсіі.

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**

# Крыжаванка № 10

Запоўніце клеткі адгаданымі словамі. Атрыманы лозунг (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

першая вясновая птушка
зацвітае ў сакавіку
птушка з „ранкам"
цячэ ў рэчцы
на ёй вясновыя „коцікі"
сінія, вясновыя кветкі
птушка, сімвал Беларусі
птушка як кніга
сонечны ...

**Адказ на крыжаванку з н-ра 6:** лаз, закалот, каліна, нос, віна, тук, паўфінал, ніва, закон, каса, бал, ліфт, сон, танк.

Узнагароды — **магічныя фламастэры** — выйгралі: **Аня Пракапюк** з Трывежы, **Кася Гіншт** з Дубін, **Павел Саўчук** з Орлі, **Ася Кубай** з Гайнаўкі, **Анэта Данілюк** з Карыціск і **Аня Раманюк** з Новага Корніна.

Віншуем! Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

Талон „Зоркі" № 10
09.03.1997

# Яшчэ будуць паэты беларушчыны?

**У юбілейны год Алены АНІШЭЎСКАЙ звярнуўся да паэткі з просьбаю аб інтэрв'ю Сакрат Яновіч.**

***— У жанчын не пытаюць пра гады, і гэта прыгожы мужчынскі звычай. Але, калі юбілей, дык чытачам нязменна цікава ведаць, як Вы глядзіце на пражытае і што галоўнае ў ім лічыце?***

— Як джэнтльмен, не пытаецe пра гады. Я думаю, што не толькі мы, жанчыны, але і мужчыны не надта хуткія хваліцца сваімі гадамі, калі ім ужо за сорак. Да саракоўкі жыццё *ідзе*, а пасля ўжо *бяжыць*, і то ўсё хутчэй!

Не ўсё ў жыцці можна запланаваць. На маё жыццё лягла ценем вайна. Але і маё пакаленне мела свой добры час. Усяляк можна глядзець на часы Народнай Польшчы, нельга аднак пярэчыць у адным: быў жа шырокі доступ да асветы. Хто хацеў, вучыўся. Мае бацькі некалі марылі пра тое, каб іх дзеці закончылі сямікласную падставовую школу ў Белавежы. І вось настала пара, калі двое з нас закончыла нават вышэйшыя школы. Бацька, на жаль, не прычакаў таго моманту.

Сваё жыццё лічу ўдалым, хаця б таму, што лёс здарыў мяне даўгавеччам. А што ў ім галоўнае? — адназначнага адказу ў мяне няма. Таму, што ў розныя перыяды свайго жыцця былі ў мяне розныя галоўныя мэты. Тым не менш, азіраючыся назад, адчуваю задаволенасць сваім лёсам. Пражыла, нікога не пакрыўдзіўшы; шмат-каму дапамагла. Я вызнаю дэвіз: лепей каму дапамагчы, чымсьці патрабаваць толькі самому сабе.

У мяне шчаснае сямейнае жыццё: муж, дачка. Згода і ўзаемнае шанаванне. Чаго больш яшчэ трэба?!

***— Як гэта здарылася, што Вы пачалі пісаць вершы ды — наогул — займацца літаратурнай творчасцю?***

— Шчыра кажучы, не было ў мяне такога моманту, ці нейкага здарэння, каб назваць яго пачаткам свайго зацікаўлення паэзіяй, літаратурай. Паэтычнасць у маёй душы была заўсёды, колькі памяці маёй. Дасюль памятаю, вось, замалёўку: зімовы вечар, у печы-сцяноўцы гараць дровы, мы — дзеці — сядзімо вакол печкі, на падлозе, а з адчыненых дзвярцаў дыхціць на нас цяпло. На слончык сеў наш бацька і па памяці гаворыць вершы, якіх навучыўся быў калісьці ў расейскай гімназіі. Чулі мы ад яго і Лермантава, і Пушкіна, і Някрасава... Запамяталіся мне гэтыя вечары. Сама пачала пісаць нейкія рыфмаванкі, яшчэ ў польскай пачатковай школе.

Потым пачалася вайна, вялікая вайна. Кароткі час пабылі ў нас саветы, іх улада. Пры іх у Белавежы адчынілі дзве школы, польскую і расейскую. У расейкай навучалі нават беларускай мове. Усе тутэйшыя дзеці, праваслаўныя беларусы, пайшлі вучыцца ў „сваю школу". У ёй я ўпершыню сустрэлася з літаратурнай беларускай мовай. Падабаліся вершы Купалы, Коласа. Дасюль памятаю Коласавы радкі: *...па падворку певень ходзіць, за сабою куры водзіць*. Брала я са школьнай бібліятэкі расейскія і беларускія кніжкі. Чытала паэму Пушкіна *Палтава*; здаецца, у беларускім перакладзе, калі добра памятаю...

У ліпені сорак першага прыйшла да нас жудасная нямецкая акупацыя. Мелі месца першыя расстрэлы. Другога жніўня, якраз на Ілью, арыштавалі майго бацьку, Івана Казака. Было яму ўсяго трыццаць восем гадоў, калі расстралялі яго. Усю сям'ю немцы выгналі з хаты, гаспадарку знішчожылі, а саміх нас шмат разоў перавозілі з месца на месца, пакуль не асталявалі ў беластоцкім лагеры ля Жалткоўскай шашы. Туды назвозілі, зрэшты, тысячы беларусаў з паленых у Прыбелавежжы вёсак.

Я ўсюды вазіла з сабою некалькі кніжак, якія мне вельмі падабаліся, м.ін. байкі Крылова; захоўвала некалькі, перапісаных мною, вершаў Міцкевіча і Лермантава. У галодную часіну забівалася я ў кут, чытала іх і вучыла па памяці.

Калі выпусцілі нас з таго лагера, дасталі мы маленечкую канурку ля беластоцкай вуліцы Бэма, дзе і трэба было абжывацца. Нехта сказаў нам тады, што на Кіеўскай знаходзіцца Беларускі камітэт, які дапамагае беларусам. І сапраўды, Камітэт дапамог. Потым я пазнаёмілася з некаторымі яго дзеячамі, м. інш. з Хведарам Ільяшэвічам, таксама паэтам. Дайшла да маіх рук беларуская газета *Новая дарога*. Жыў у Беластоку паэт Масей Сяднёў, творы якога мяне зацікавілі. Я іх вырэзвала з газеты і захоўвала. Неўзабаве пазнаёмілася з ім асабіста. Тады падумала: „Калі адважуся сама пісаць, дык толькі на беларускай мове".



*У белавежскае лета „На бярэзіне", 1979 г.*

Пасля вайны мы вярнуліся ў сваю Белавежу, але там ужо не было за што рук зачапіць. Таму зноў паехалі ў Беласток, дзе стала я на работу і запісалася ў вячэрнюю гімназію. Гады міналі ў працы і навуцы. У пяцьдзесят трэцім — выехала ў Варшаву. Затым — замуства і сям'я; не было калі думаць пра нешта іншае. З паэзіяй, аднак, я ніколі не разлучалася. Усё прыбіралася пачаць сваю прыгоду з паэтычным пяром. Крыху пісала папольску, але без думкі пра публікацыю таго. Тое польскае нават не захавалася. От, часам каму прачытала і столькі ўсяго... Прычакала пенсіі. Жанчынам даюць яе ў пяцьдзесят пяць. Падумала: гэтыя пяцьдзесят пяць яшчэ не старасць і — нарэшце — узялася за пяро. Спачатку пісала апавяданні, а пасля і вершы.

***— Былі ў Вас літаратурныя настаўнікі, аўтары, якіх Вы асабліва ўпадабалі ды падгледжвалі іх творчую манеру?***

— Вось што магу сказаць: я ніколі не была доўга вернай аднаму паэту. Самым важным і каханым мною застаецца ўсё ж Пушкін. Але была ў мяне пара захаплення Ясеніным, затым Ахматавай; рабілі ўражанне Тувім, Бранеўскі. Калі стала купляць *Ніву*, зацікавілася творчасцю пісьменнікаў *Белавежы*. Цаню Барскага, Шведа. Доўга задумвалася, хто такі Зубрыцкі. Чакала прозы. З'явіліся *Загоны* Яновіча. Маю ў сваёй хатняй бібліятэцы ўсе кніжкі *белавежцаў*.

Як я пішу? Калі адчую патрэбу, і нязменна ў сувязі з маімі вясковымі каранямі. Люблю ісці насупраць ветру, дыхаць водарам сушанага сена, мядовым пахам ліпаў. Сумна мне глядзець як канае наша вёска, а разам з ёю — можа быць? — і цэлая нацыя... Сэрца баліць, але... які ратунак? Ці пасля нас яшчэ будуць паэты беларускай мовы?

# Атракцыёны Сакольскай зямлі

[? ☞ працяг]

ця помніка Юзафу Пілсудскаму. На здымках касцельна-патрыятычныя матывы. Моладзь стаіць на фоне лозунга „Od dzieciństwa chciałem służyć Polsce". Сярод касцельнай знаці не відаць праваслаўнага духавенства.

— Bo tak naprawdę, to trudno powiedzieć, czy są tu jacyś Białorusini, — кажа намеснік бурмістра спадар Часлаў Санько.

Бурмістр з сімпатыяй успамінае беларускі фэст.

— Z białoruskością, to trudno powiedzieć... — разважае мой субяседнік. — Niby nie ma, ale jest. Ja sam, jak jadę do swojej rodzinnej wsi, to rozmawiam po białorusku.

У Саколцы прызнакам нацыянальнасці з'яўляецца рэлігія. Да палякаў прыпісаны каталікі, а беларусы — паводле сакольскай схемы — гэта праваслаўныя.

— U nas jest normalnie, — кажа спадар бурмістр. — Ludzie w Sokółce żyją w prawdziwej zgodzie.

У гарадскім доме культуры адсылаюць мяне да рэдактар Івоны Вісьнеўскай.

— Pani redaktor będzie wiedziała wszystko o kulturze, — кажуць працаўніцы СОКу (Сакольскага асяродка культуры).

Спадарыня Вісьнеўская рэдагуе „Gazetę Sokólską Nową". У часопісе знаходжу пералік усіх культурных падзей.

— Z mniejszości, to mamy tutaj Tatarów, — кажа спадарыня Вісьнеўская.

У Саколцы выходзіць газета татарскай меншасці „Świat Islamu". Эліта Саколкі не сароміцца татараў. Ім адвялі нават нямала месца ў мясцовым музеі. Горш з беларусамі. Паводле артыкула ў мясцовай газеце нават праваслаўных нельга лічыць беларусамі, бо могуць




быць яны і расейцамі (Krzysztof Bondaryk, „Sokólka w latach II Rzeczypospolitej 1919—1939", „Gazeta Sokólska Nowa", nr 43).

— Tutaj są znane tylko białoruskie festyny, — кажа мая субяседніца.

У Саколцы зацікавілі яны моладзь.

— I byłoby fajnie, gdyby przy Domu Kultury było coś białoruskiego, — заяўляе спадарыня Вісьнеўская.

Аднак разважанні пра месца беларускай культуры ў Саколцы можна закончыць знакамітай цытатай з „Gazety Sokólskiej Nowej", nr 39: „Uprzejmie proszę Ojców naszego miasta i wychowawców młodzieży, aby intensywniej pobudzili polskość, bo budować ją musimy, chociaż w trudzie, ale w licznej zbiorowości mieszkańców Sokółki, całej Sokólszczyzny i Kraju. Sokółka, 18 sierpnia 1996 r. („Refleksje poświąteczne Polki").

Такога змагання за Польшчу вы ўжо нідзе не сустрэнеце. І гэта несумненна яшчэ адзін атракцыён Сакольшчыны.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Новыя вершы

**Уладзімір Саўчук**

* * *

Усё мінула  
папраставалі дарогі  
павешалі святыя іконы  
напісалі свае новыя законы  
і выгналі дурнату з хаты  
але д'ябал чорны рагаты  
пацягнуў за горб сваіх  
— блудных сыноў  
але тут кагосьці збракавала  
ў гэтых паноў  
можа цярплівасць эблудзіла  
а цярпелі раней за няўдачу  
цярпелі і за Бога  
але разгулялася карусель  
пачырванела зноў пасцель  
цяпер няхрышчана дарога  
і дзед Лукаш таленавіты паэт  
ўладаром усёй Русі хоча быць  
але  
„прыляцелі гусі з броду  
памуцілі ў рэчцы воду".

* * *

Гісторыя:  
чаго шукаем — праўды!  
— а яна мінае нас  
і мы забываем  
аб крыўдах сваіх  
аб слёзах дзіцячых  
аб чырвонай дружбе  
як былі на службе  
але трэба пазбыцца  
і скінуць баласт гісторыі  
а цяпер ужо  
дзякуем суседзям  
за прыгаршчу адвагі  
за дэмакратыі свежыя сляды  
якія ставілі па-руску  
але перад вамі  
яшчэ доўгая дарога  
несці крыж свой  
беларускі.

## На новай дарозе

Вясна прыйшла ў зялёных чаравіках  
раскавала лёд абцасам і падковай  
смяецца сонца з дзетвары вясковай  
што яны хаваюць белы снег  
за прызбу.  
Зблудзіў і май у садок зялёны  
вецер заткнуў белы грэбень  
у чупрыну  
і Жэнік закахаўся ў Лёньцы нашай  
так шчыра ён туліць да сэрца  
дзяўчыну.  
Мінуў і жнівень — месяц багаты  
ён касіў сярпом зорачкі над намі  
і гэтай ноччу заблудзіў у хату  
а вяртаўся здасцца сваімі сцежкамі.  
Восень завязала новую радзіму  
выканалі план свой гэтыя дзяўчаты  
куды павернешся — яны пры баку  
і цягнуць поглядам у сваю хату.  
Заехаў студзень на шытках дубовых  
а тройка званкамі будзіла прыход  
і белым снегам сыпала і шчасцем  
у новай радзіме на Новы Год.

* * *

Не наракайце на нікога  
ўладу неслі мы на талерцы  
але чэрствай стала мне дарога  
весела жыў у кавалерцы  
вецер злапаў мяне за рукі  
пратанцавалі ўсё Падляшша  
закаштаваў і цяжкой там навукі  
такая была служба наша.  
— Чаму недаступны цяпер  
тыя мары  
— ці замнога праклалі дарог.  
Эх ты, шчасце! — нявестка з дарогі  
чаму праступіў жыцця твайго парог.

# Ветэран і забыты юбіляр

Вёска Чэхі-Арлянскія распаложана ў невялікай далінцы недалёка чыгункі, якая вядзе з Гайнаўкі ў Чаромху. З усіх бакоў акружаюць яе маляўнічыя ўзгоркі, пераважна пакрытыя лесам. Многія пясчаныя грунты, якія належалі жыхарам Чэхаў-Арлянскіх, былі аблесены, паколькі іх апрацоўка не давала сялянам карысці. Уздоўж вёскі цягнуцца вузкія і доўгія палоскі сенажацяў, прарэзаныя ручайком. Выцякае ён з крыніцы, што знаходзіцца ў лесе між Чэхамі-Арлянскімі і Елянкай, і дае пачатак рацэ Арлянцы.

Жыццё вёскі ў час вайны было тут асабліва цяжкае. Мае яна сваіх ваенных ветэранаў. Адным з іх з'яўляецца **Сцяпан ТАФІЛЮК** — 74-гадовы пенсіянер, ураджэнец Чэхаў-Арлянскіх і жыхар Крывятыч. Вось што расказаў мне гэты цікавы чалавек:

— У бацькі была свая гаспадарка. У чатырнаццацігадовым узросце пасвіў я сваіх і суседавых кароў. Паша была агульная і хаця выганялі статак раніцай і пасля поўдня, травы не хапала. Пасвілі кароў і ў лесе, і каля чыгуначнага пуці, а паколькі ў нас не было сваёй сенажаці, даводзілася яшчэ пасвіць кароў лесніка і пуцявога абходчыка.

У 1939 г. прыйшлі саветы і кожнаму гаспадару загадалі перавезці па 20 кубаметраў калод з пушчы ў Кляшчэлі. Потым пайшоў я працаваць чыгуначнікам, спачатку ў Чаромху, а потым у Семяноўку, дзе расшыралі рэйкі на расейскі лад. Затым перавялі мяне на работу ў Шэпятова.

Савецкі афіцэр праводзіў у нашай вёсцы з мужчынскай моладдзю „абучку" — заняткі, якія падрыхтоўвалі да ваеннай справы. Для практыкаванняў былі ў нас драўляныя гранаты, з якімі ганялі нас па лесе.

Летам 1941 года прыйшлі немцы. Восенню солтыс вызначыў маладых людзей на прымусовыя работы ў Нямеччыну, у тым ліку і мяне. Калі цягнік прыпыніўся на мосце на Бугу, трое нас выскачыла і ўцякло з транспарту. Пехатою ішлі мы дадому і па дарозе тлумачыліся, што ідзем капаць бульбу. Солтысу мы сказалі, што нас не прынялі і адаслалі назад. Зіму праседзелі дома, але вясною зноў павісла пагроза вывазу на работы. У маі 1942 г. апынуўся я каля Тыльзіта ва Усходняй Прусіі і працаваў там фурманом. Восенню 1944 г. пачалася эвакуацыя насельніцтва на захад перад наступаючымі савецкімі войскамі. Я таксама ехаў на захад з нямецкімі гаспадарамі. Спыніліся мы ў палацы нейкага памешчыка. Зімою 1945 г. зноў пачалося наступленне савецкіх войскаў і мы зноў сталі ўцякаць на захад, у напрамку Гданьска. Адтуль мелі нас на караблях эвакуіраваць у Данію. Неўзабаве чырвонаармейцы перакрылі дарогу ў Гданьск і калоны ўцекачоў накіраваліся на замерзлы Віслінскі заліў. Ішлі мы па лёдзе, а савецкія самалёты бамбардзіравалі калоны. Многа коней і людзей патапілася. Калі мы выкарабкаліся на сухі бераг, уцекачоў акружылі саветы.

Нас, беларусаў, сагналі на зборны пункт, потым павялі ў лазню, абстрыглі і пабрылі, далі абмундзіраванне. Мне папаліся нямецкія трафейныя чаравікі. Не ўсім хапіла шлемаў. Пасля абучэння і ваеннай прысягі камандаванне вырашыла накіраваць нас на штурм Гданьска, але пакуль мы там даехалі, то горад быў ужо вызвалены. Пайшлі мы тады фарсіраваць Одру. Назначылі мяне ў артылерыйскае падраздзяленне, абслугоўваць гармату калібру 45 мм. А калі не было гарматы, пасылалі нас у разведку на бронемашынах. Па радыёстанцыі перадаваў я весткі на тылы.



На тэрыторыі Нямеччыны, 30 кіламетраў ад Берліна, 2 мая 1945 года быў я ранены. Выстралілі ў мяне нямецкі снайпер, які схаваўся пад чыгуначным мостам. Куля прайшла цераз лёгкія. Я заліўся крывёю і пацямнела мне ў вачах. Побач не было нікога, а ззаду стралялі танкі. У галаве мільганула думка: каб мяне знайшлі, трэба прабівацца да шашы. Рэшткамі сіл поўз я на карачках цераз гушчар у напрамку шашы, да якой было 200 метраў. Праз нейкі час знайшлі мяне „душахваты" з санітарнага батальёна, якія на месцы зрабілі перавязку і занеслі да нейкай старой лесні́чоўкі. Потым усіх раненых адправілі ў шпіталь у Торунь. Там зрабілі мне тры складаныя аперацыі. Ляжаў я ў ложку дзесяць месяцаў, а потым былі яшчэ два месяцы выздараўлення. Пасля гадавой пабыўкі ў бальніцы адаслалі мяне на работу ў аўтамабільную майстэрню ў Легніцу (раней была там нямецкая фабрыка самалётаў). Толькі праз год мяне дэмабілізавалі і нялёгкай дарогай, бо цераз Брэст, вярнуўся я дадому, у Чэхі-Арлянскія. Быў ужо 1947 год.

* * *

Сцяпан Тафілюк узнагароджаны савецкімі і польскімі баявымі адзнакамі і медалямі. Да адыходу на пенсію займаўся ён на сваёй гаспадарцы, шмат гадоў працаваў трактарыстам — вазіў прычэпам дзяцей у школу, а таксама калектыў „Арляне" на канцэрты ў наваколлі. У гэтым годзе адзначыў ён 50-гадовы юбілей з дня шлюбу. Калісьці гмінныя ўлады дбалі, каб такіх юбіляраў (а іх у гміне Орля многа) узнагародзіць адмысловым медалём.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Талерантнасць і вера ў Бога

Я не раз сустрэлася з неталерантнасцю. Першы раз здарылася гэта два месяцы да ўвядзення ў Польшчы ваеннага становішча.

Пасля абеду цягнік у Семяноўку ад'язджаў а 14.35. Я заўсёды прасіла настаўніка адпусціць мяне з апошняга ўрока на 5 хвілін раней, каб я паспела на цягнік. У той нядобры дзень была ў нас кантрольная работа, і было мне няёмка прасіць, каб выйсці раней са школы.

Прыйшла я ў чакальную залу чыгуначнага вакзала (тады ў Гайнаўцы стаяў стары будынак ПКП). Прысела я на лавачку, адкрыла кніжку. Праз нейкі час прыйшла дзяўчына з прафесіянальнай школы. Яна таксама сёння вучылася восем гадзін. Пасля далучыліся да нас двух хлопцаў і дзяўчына, вучні тэхнікума. Гаварылі аб усім, жартавалі, смяяліся. На дзве гадзіны да ад'езду цягніка ў пачакальню ўвайшло чатырох. Пачалі да нас чапляцца. У нейкі момант аднаму хлопцу сказалі: „Ты — кацап" (мы яго ўсе зналі — яго маці праваслаўная, выйшла замуж за каталіка, жылі яны на захадзе Польшчы, а хлопец прыехаў жыць да бабулі і вучыцца ў лясной школе).

— Не, я — паляк. Я з захаду Польшчы.

— Скажы сваё прозвішча!

У хлопца было сапраўды тыповае польскае прозвішча. Тады спыталі ў яго, ці мы — кацапы. „Бабаў біць не будзем!" — рашылі яны і вывелі другога хлопца. Мы не пайшлі званіць у міліцыю, бо міліцыянты маглі не прыехаць, а хуліганы ж побач, і нас змогуць пабіць. Праз нейкі час вярнуўся наш сябра, увесь у сіняках.

Аднойчы ў Беластоку адна кабета лаялася, што прыязджаюць „кацапы" перад сваім святам і трэба стаяць у аграмадных чэргах, каб нешта купіць (было гэта перад праваслаўным Раджаством).

Калі я працавала ў бальніцы, здарыўся вельмі непрыемны інцыдэнт. Я часта размаўляла з людзьмі на нашай мове. У адной палаце ляжала каталічка, якая ненавідзела ўсіх іншаверцаў і непалякаў. Яна паскардзілася лекару, быццам я яе абразіла. Хаця ўсе хворыя сказалі кіраўніку бальніцы, што гэта няпраўда, мне сарвалі месячную прэмію.

У цяперашні час, калі людзі з нізкім маральным узроўнем і хуліганы ходзяць амаль беспакарана, страшна быць кімсьці іншым. Але ж веру і нацыянальнасць нельга нам мяняць у залежнасці ад абставін.

**Аўрора**

# А ўсё-ткі спалілі

Зусім нядаўна пісаў я пра пажар царквы ў Маронгу, што ў Альштынскім ваяводстве; пашкоджанні тады былі невялікія, будынак пасля рамонту мог яшчэ служыць вернікам. Але вось уначы 6 лютага трое маладых мужчын вярталіся з дыскатэкі з нейкай вёскі. Праходзячы побач царквы захацелася ім пашукаць у ёй золата. Улезлі ўсярэдзіну праз дзірку ў даху, што асталася ад папярэдняга пажару і, каб было відней, запалілі свечку, якую знайшлі ў царкве. Нічога больш каштоўнага не знайшоўшы, пакінулі царкву і ўзламаліся ў суседнюю краму з гарэлкай і папяросамі. А ад тае свечкі загарэлася царква і згарэла так, што адно руіна асталася.

Цяжка жыць праваслаўным сярод чужых.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Вайсковая парафія ў Вроцлаве

Калісь я пісаў пра вайсковую парафію ў Цехацінку, а цяпер, калі пабываў у Цяпліцах, паехаў у Вроцлаў і там даведаўся пра тамашні вайсковы праваслаўны прыход. Заснаванне прыхода Уздзвіжання Крыжа Гасподняга адбылося 6 кастрычніка мінулага года. На ўрачыстасці прысутнічаў уладыка Сава. Настаяцелем прыхода, які ахоплівае цэлую Шлёнскую ваенную акругу, з'яўляецца капітан Аляксандр Кахановіч.

**Андрэй Гаўрылюк**

# У плыні польскага праваслаўя

Айцец Рыгор Сасна прызвычаіў нас ужо, што перыядычна на кніжных паліцах паяўляюцца чарговыя тамы састаўленай ім бібліяграфіі. Вось нядаўна выйшла друкам другая частка „Уступнай бібліяграфіі ўсходняга хрысціянства"*.

Новы том, зразумела, з'яўляецца дапаўненнем першага. Аўтар называе ў ім артыкулы звязаныя з усходнім хрысціянствам, якія былі надрукаваны на польскай мове, прычым наогул абмінае тэксты, змешчаныя ў царкоўнай перыёдыцы, кваліфікуючы іх для асобных тамоў. Аўтар уводзіць да бібліяграфіі (на трох мовах: польскай, англійскай і беларускай) д-р Антон Мірановіч звяртае нам увагу, што „Аўтар пашырае (...) храналагічны абсяг бібліяграфіі і даводзіць яе да 1995 года. (...) А. Рыгор Сасна не абмяжоўваецца ўсяго да гісторыі і сучаснасці Праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай. Да ўсходняга хрысціянства аўтар ставіцца ў кнізе як да загалоўленага слова. У выніку, знаходзім мы ў ёй бібліяграфічныя даведкі, прысвечаныя святарству, царкоўным помнікам і будаўніцтву, царкоўнай музыцы, гісторыі і культуры вернікаў Усходняй царквы".

У новым томе аўтар называе каля 2 800 артыкулаў (яны панумараваны ад 5 781 да 8 566), хаця ў сапраўднасці ёсць іх намнога больш. Што і раз жа сустракаем нумары „пашыраныя" (з літарамі „a", „b", „c" і г.д.), а нярэдка пад адным нумарам называюцца некалькі ці нават некалькі дзесяткаў прац. Здзіўляе перш за ўсё дыяпазон улічаных крыніц. Пра шмат іх мала хто з нас і чуў. Я, напрыклад, упершыню сутыкаюся з такімі часопісамі, як „Płaj", „Peremyski Dzwony", „Mariavita", „Nomos", „Summarium"... Зрэшты, гэты спісак можна было б працягваць яшчэ доўга. Трэба таксама заўважыць, што складальнік бібліяграфіі ўлічвае шмат артыкулаў апублікаваных у гмінных часопісах, якіх у апошні час паявілася многа, і да якіх маем пераважна абмежаваны доступ.

У другой частцы бібліяграфіі сустрэнем і выпраўленні недакладнасцей, якія пракраліся ў першы том (напр. анатацыі 5 950 — 5 953).

Кніжка мае паказальнікі — імянны і геаграфічны, спіскі загалоўкаў часцей называных часопісаў з месцам іх выдавання, скарачэнняў ужываных у тэксце і кніжных выданняў аўтара. Традыцыйна ўжо на вокладках прыводзяцца фрагменты рэцэнзій прац рыбалаўскага святара. Знойдзем таксама прысвечаны яму біяграфічны нарыс аўтарства А. Мірановіча, перадрукаваны з „Białoruskich Zeszytów Historycznych" н-р 1/1994 г.

Элегантна выдадзены том спансаравалі „Orthdruk" з Беластока і Фонд праваслаўнай культуры з Варшавы.

**Пётр Байко**

*ks. Grzegorz Sosna, *Wstępna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego, Druki polskojęzyczne okresu współczesnego*, Część II. Ryboły 1996, s. XVIII, 274, 4 nlb.

# Фабіян Акінчыц

[? ☞ працяг]
мадствам". Аднак, хутка пераканаўся, што „гэты шлях (...) ні да чаго не прывядзе".

З 25 лістапада 1933 года, па ініцыятыве Акінчыца, у Вільні пачынае выходзіць часопіс „беларускай нацыянальна-сацыялістычнай думкі" „Новы Шлях", пад рэдакцыяй Уладзіслава Казлоўскага. Гэта быў пачатак беларускага нацыянал-сацыялістычнага руху. Менавіта ў ім убачыў Ф. Акінчыц выйсце для беларускага нацыянальнага актыву ва ўмовах польскага і бальшавіцкага тэрору і правакацый.

У часопісе „Новы Шлях" Акінчыц выступаў з палітычна-прапагандысцкімі, аналітычнымі і эканамічнымі артыкуламі. Ён піша пра рэпрэсіі супраць нацыянальнай інтэлігенцыі ў БССР, пра „камуністычную дыверсію" ў Заходняй Беларусі, пастаянна адсочваў падзеі ў Нямеччыне, даводзіць неабходнасць нацыянал-сацыялізму для беларускага народа.

Шэрагі арганізацыі пашыраліся. У яе ўступілі такія вядомыя асобы, як архітэктар Лявон Дубейкаўскі, кампазітар Альбін Стаповіч, кіраўнік групы незалежных радыкалаў Канстанцін Юхневіч ды іншыя. На пачатку 1936 г. была надрукавана праграма Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі (БНСП), пачалася падрыхтоўка да партыйнага з'езду. Але польскія адміністрацыйныя ўлады не далі дазволу на яго правядзенне, больш таго, у 1937 годзе была забаронена дзейнасць партыі ў „прыгранічнай паласе". З Вільні ў Ліду давялося перавесці рэдакцыю „Новага Шляху", апошні 24-ты нумар якога выйшаў 25 лістапада 1937 года.

Польскія ўлады небеспадстаўна бачылі ў БНСП агентуру Нямеччыны, але рэальна ацэньвалі сілы групы Акінчыца—Казлоўскага. Аб уплыве беларускіх нацыянал-сацыялістаў у беларускім грамадстве яскрава сведчыць такі факт: тыраж партыйнага часопіса не перавышаў 500 паасобнікаў.

Дзесьці ў 1939 г. Ф. Акінчыц выехаў у Нямеччыну, дзе пачаў працаваць старшынёй Беларускага бюро прапаганды ў Берліне. Ён ініцыяваў падрыхтоўку маладых беларускіх нацыянал-сацыялістаў у дыверсійна-разведвальных школах абвера. У 1940 годзе яго прызначылі старшынёй Беларускага камітэта ў Варшаве, але гэтую пасаду Акінчыц хутка пакінуў. Ён не меў шмат прыхільнікаў сярод беларускіх эмігрантаў, на якіх можна было б абаперціся ў палітычнай барацьбе. Акінчыца паступова адсоўвалі на другія ролі палітычныя групы Мікалая Шчорса—Вінцука Гадлеўскага і Янкі Станкевіча. На пачатку 1941 года ён дамагаўся ад немцаў прызначэння на загадчыка школы прапагандыстаў пад Берлінам, дзе з беларусаў, былых ваеннапалонных польскай і савецкай армій, рыхтаваў верных сабе „маладых актывістаў", якіх Акінчыц планаваў выкарыстаць у будучай барацьбе за ўладу на Беларусі.

Прынята лічыць, што Фабіян Акінчыц быў фанатычным прыхільнікам нямецкага фашызму, які змагаўся не толькі супраць бальшавізму, але і беларускіх нацыянальных дзеячоў. Былы дзеяч Беларускай цэнтральнай рады Язэп Малецкі пісаў на эміграцыі пра Акінчыца наступнае: „Гэта быў фанатык, які верыў, што нізкай служлівасцю гітлераўцам здабудзе ў іх давер і што за гэтым ідзе — уладу ў Беларусі. Ён навет збіраўся ў часе вайны рабіць «чыстку» ў радох беларускіх актыўных дзеячоў (...) Як «гнілых дэмакратаў» і «рэакцыянераў» ён называў М. Шкялёнка, Я. Станкевіча, А. Адамовіча, а. В. Гадлеўскага. (...) Акінчыц быў тыповы сярэдняевечны сэктант-фанатык, які ўсіх інакш думаючых ахвотна кідаў-бы ў агонь. Небясьпечныя норавы Акінчыца стрымліваў Казлоўшчык, але ён не меў магчымасці яго кантраляваць. Калі я сачыў дзейнасць Акінчыца, я не мог зразумець, дзе ў ім канчаецца варожы беларускай нацыянальнай справе авантурыст, а дзе пачынецца псыхапат".

Але існуе і іншы погляд на Фабіяна Акінчыца. Сымон Шаўцоў, былы выпускнік школы прапагандыстаў, прыводзіць словы Акінчыца, з якімі ён звярнуўся да сваіх „выхаванцаў": „Немцы нам не калегі, але мы не маем з кім ісці. Мы пайшлі б з самім чортам, каб толькі здабыць нашую незалежнасць (...) Толькі на вас адна надзея. Я за вас залажыў сваю галаву. Як хто з вас уцячэ да партызанаў, усіх нас пастраляюць немцы... (...) Нашая бяда, што лёс радзіму лучыць з Нямеччынай. (...) Ніхто нам незалежнасць не дасць, як самі яе не заваюем. Нам няма выйсця. Францыя, Англія ды Амерыка ў альянсе з СССР. З кім нам ісці? Патрэбна ратаваць наш народ ад генацыду, як бальшавіцкага, так і нямецкага".

Відавочна, асоба Акінчыца не была адназначнай і нельга яе маляваць толькі чорным, або толькі белым. Пасля таго, як яму не ўдалося заняць аніякай пасады на акупаванай немцамі Беларусі, Акінчыц спрабаваў апанаваць грамадзянскую адміністрацыю і паліцыю сваімі людзьмі. Склад „выхаванцаў" Фабіяна Акінчыца быў неаднародны: побач са шчырымі беларускімі патрыётамі былі і такія асобы, якія прынеслі шмат шкоды нацыянальнаму руху.

Трагічная гібель Акінчыца да сённяшняга часу да канца не высветлена. Ёсць звесткі, што смяротны прысуд яму вынес Цэнтральны камітэт Беларускай незалежніцкай партыі „за шкодную беларусам палітыку". Камуністычныя аўтары прыпісваюць забойства Акінчыца савецкаму падполлю.

Фабіян Акінчыц жыў і працаваў у Берліне, а ў Менск прыязджаў зрэдку і спыняўся на кватэры свайго партыйнага паплечніка, рэдактара „Беларускай Газэты" Уладзіслава Казлоўскага. Пятага (у іншых крыніцах — сёмага) сакавіка 1943 года да Казлоўскага прыйшоў тэхнічны рэдактар газеты Алесь Матусевіч, які перад тым навязаў сувязь з савецкай партызанкай, і Рыгор Страшко, савецкі партызан. У трактоўцы бальшавіцкіх гісторыкаў адзначаецца, што яны павінны былі захапіць жывым Казлоўскага і вывезці яго да партызан. Але таго дня на кватэры Казлоўскага быў застрэлены Ф. Акінчыц. Пры гэтым Казлоўскаму нічога не сталася.

Фабіян Акінчыц быў пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Менску, дзе неўзабаве знойдзе свой апошні прытулак і таленавіты паэт Казлоўскі... Беларускія газеты, якія ўзначальвалі сябры Нацыянальнага Рэзыстансу, праігнаравалі смерць Акінчыца і не змясцілі нават згадкі пра яе. Так скончыў сваё жыццё правадыр беларускіх нацыянал-сацыялістаў Фабіян Іванавіч Акінчыц, палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, эканаміст і выдавец. Ягоная смерць, здаецца, задаволіла ўсіх: і бальшавікоў, і беларускіх нацыяналістаў.

* * *

Шмат гадоў прайшло пасля смерці Акінчыца, але імя ягонае і цяпер нечаста згадваецца беларускімі гісторыкамі, прынамсі, як і Уладыслава Казлоўскага. Сотыя ўгодкі з дня нараджэння „Казлоўшчыка" на Беларусі „адзначыла" толькі „Советская Белоруссия", якая змясціла чарговы пашквіль М. Мікіціна. А пра 110-ыя ўгодкі Фабіяна Акінчыца не згадаў ніхто. Нават А. Р. Лукашэнка, які прылюдна абвяшчаў пра сваю любоў да нямецкага нацыянал-сацыялізму...

**Сяргей Ёрш**

# Трэба нам яднацца

*Я з'яўляюся пастаянным чытачом ды падпісчыкам „Нівы" ўжо 35 гадоў і больш за 30 гадоў яе карэспандэнтам. Спярша пад сваё крыло ўзяў мяне Міхась Хмялеўскі і ён мяне многаму навучыў, за што я вельмі ўдзячны яму. Быў я карэспандэнтам пры двух папярэдніх рэдактарах. Усе яны былі для мяне вельмі добрыя, таксама як і цяперашні спадар Яўген Міраповіч. Дзейнічаў я таксама пры многіх старшынях БГКТ. Калі ў „Ніве" № 7 ад 16 лютага 1997 года ў рубрыцы „Мы прачыталі" я пазнаёміўся з выказваннямі галоўнага рэдактара „Przeglądu Prawosławnego" спадара Яўгена Чыквіна і старшыні БГКТ спадара Янкі Сычэўскага для „Kuriera Podlaskiego", вельмі ўстрывожыўся тым, што для іх беларуская мова з'яўляецца нечым абыякавым... Яны лічаць, што ў Беластоцкім тэлебачанні непатрэбны беларускамоўныя перадачы. Сапраўды, калі Яўген Чыквін выступае па Беластоцкім радыё, не гаворыць на літаратурнай беларускай мове, толькі на гаворцы, але ўсе яго разумеюць. Тым часам спадар Янка Сычэўскі гаворыць на чыстай беларускай мове і яго я таксама разумею і шаную. Але не разумею аднаго: чаму вы, дарагія спадары Сычэўскі і Чыквін, перашкаджаеце ў тварэнні перадач у Беластоцкім тэлебачанні на беларускай, украінскай ці літоўскай мовах. Вы ж праваслаўныя беларусы, а Беласток знаходзіцца на памежжы некалькіх культур, тут наша айчына і нам нельга забываць нашай мовы, культуры ды фальклору.*

*Пісаў я некалі:*
*Што спадары старшыні*
*У еднасці сіла.*
*Мне казала так калісь*
*Цётачка Мальвіна.*

*Чаго вы надалей хочаце ад тыднёвіка „Ніва"? Яна нас вучыць роднага слова, дапамагае дзеткам вывучаць родную мову ў школах. „Ніва" дапамагае нам не забыць мінулае, здзекі над беларускім народам. Спатыкаюся я часам з Юркам Ляшчынскім, Яўгенам Вапам, Віктарам Стахвюком і калектывам рэдакцыі „Ніва". Хацеў бы, каб вы супольна сустрэліся і абмеркавалі нашы балючыя справы і вельмі быў бы ўдзячны, каб у такой сустрэчы я мог прысутнічаць. Трэба нам усім разам аб'ядноўвацца!*

***Мікалай Лук'янюк***

# Адпомсціў

Абпалены балкон і чорныя вокны на пятым, апошнім паверсе відаць ужо з вуліцы. На першым паверсе з дзвярэй выходзіць жанчына ў штанах, берэце, з папяросай у зубах. Глядзіць мутнымі вачамі, хістаецца. Вышэй адчуваецца пах гару. У спаленай кватэры замест дзвярэй чорная дзіра. Дзверы насупраць, абпаленыя, доўга не адчыняюцца. Урэшце праз шчыліну выглядае старэйшы мужчына: „Я нічога не бачыў. Мяне тады тут не было". Дзверы зачыняюцца.

Уначы з нядзелі на панядзелак (з 23 на 24 лютага) здарылася тут трагедыя. Бацька сям'і абліў бензінам дзверы кватэры і падпаліў. Яго жонка (фактычна, былая), супраць якой быў скіраваны гэты акт, уцякла балконам да суседзяў. Дзве дачкі — 17- і 15-гадовая — спалі. Выцягнулі іх пажарнікі, так моцна апечаных і ўчадзелых, што бельскі шпіталь не змог іх прыняць. Адну павезлі ў Беласток, другую у Гайнаўку.

* * *

Тры блёкі былога бельскага ПГРа (саўгаса) па вуліцы Белавежскай, як і ўся маёмасць фірмы-банкрута, трапілі ў Агенцтва сельскагаспадарчага рынку скарбу дзяржавы. Разам з жыхарамі — найчасцей з вельмі падставовай адукацыяй, без якой-небудзь магчымасці знайсці працу ў горадзе і акаліцы. Сям'я, у якой адбылася гэтая трагічная падзея, можна сказаць, асаблівa не выдзялася са свайго акружэння. Ён — саракапаругадовы, без працы, алкаголік. Яна — на рэнце, пасля псіхіятрычнага лячэння, паводле суседзяў — нервовая і канфліктная.

— Суседзі спачатку нават не зрэагавалі на яе крык, — кажа кабета з другога пад'езда, — бо яна часта крычала ў злосці. І дзяцей супраць бацькі настаўляла. Сын, які цяпер у войску, у мінулым годзе так бацьку пабіў, што той трапіў у бальніцу.

— Яна то вострая ў языку, — расказваюць жанчыны ў жыллёвым кааператыве, — а ён, здавалася, такі бедны і лагодны. Але ж гэта яна дбала пра дом, пра дзяцей. Нядаўна сплаціла ўсю задоўжанасць за чынш, рамонт кватэры зрабіла, купіла новую мэблю. Дочкі дагледжаныя, апрануты, добрыя вучаніцы. Да сына таксама ніхто з суседзяў ніякіх прэтэнзій не меў. А што мужык? Быў такі бездапаможны ўвесь час, можа і не ўмеў даць рады ў жыцці.

Сямейны канфлікт прывёў да разводу некалькі тыдняў таму. Яна атрымала права на высяленне яго з кватэры. Яму не было дзе падзецца, начаваў то па суседзях, то ў падвале. Піў.

* * *

У сераду 25 лютага грузілі на трактар мэблю са спаленай кватэры. Вывозілі яе на перахаванне ў ПГРаўскія будынкі пад Парцава. Як ні дзіўна, шафы, канапы, фатэлі, жырандолі здаваліся мала падпшчаныя. Пакуль ад'ехалі з маёмасцю, некалькі разоў пайшоў дождж, разганяючы цікаўную публіку.

— Горад прызначыў сям'і тымчасовае памяшканне, дзесьці на паддашку, — расказваюць у бюро жыллёвага кааператыва, — але маці жыве ў суседзяў. У нас ёсць адна кватэра пустая, чакаем толькі папераў на афіцыйнае адсяленне і могуць там яны жыць, пакуль не скончыцца ў іх рамонт. На шчасце, кватэра была застрахаваная, сёння ўжо рамонтная брыгада яе аглядала, усё павінна пайсці хутка. Толькі што з дзяўчынкамі?

У малодшай лекары сцвердзілі апёкі на 80% цела. У старэйшай — моцна пашкоджаны дыхальныя шляхі. Да яе ложка ў шпіталі не пусцілі нават маці.

— У мяне, па польскай мове, мела яна пяцёрку, — кажа настаўніца эканамічнага ліцэя, якога вучаніцай другога класа была дзяўчына. — Па іншых прадметах таксама ніжэй чацвёркі не было. Акуратная такая, ветлівая, ніколі не скардзілася ні на хатнія варункі, ні на бацькоў. **(ак)**

# Позірк у мінулае

**11 сакавіка**

843 г. — памесны сабор у Канстанцінопалі канчаткова вяртае культ іконаў, завяршаючы гэтым іканаборства, якое доўжылася больш ста гадоў. У 726 г. візантыйскі імператар Леў III выступіў супраць пакланенню іконам, сыходзячы з другой запаведзі: „Не рабі сабе куміра і не ствараў ніякага вобраза таго, што на небе ўверсе, што на зямлі ўнізе і што ў вадзе ніжэй зямлі, — не пакланяйся ім і не служы ім". Да IV стагоддзя Царква строга прытрымоўвалася гэтай запаведзі. Першыя хрысціяне лічылі, што толькі язычнікі пакланяюцца рукатворным выявам. Аднак пачынаючы ад IV стагоддзя, калі хрысціянства стала дзяржаўнай рэлігіяй і праследаванне хрысціян замянілася праследаваннем язычнікаў, у Царкву хлынула хваля неафітаў, прыносячы з сабою і свае старыя рэлігійныя прывычкі, у тым і пакланенне выявам свайго культу. Новая тэндэнцыя перамагла, аднак не цалкам і не ўсюды, напр. у Малой Азіі. Калі ў VII стагоддзі ад усходу пачала хутка распаўсюджвацца новая рэлігія, іслам, паявілася зноў пытанне пакланення выявам. За пакланеннем іконам былі пападаючыя пад арабскае панаванне хрысціянскія абшчыны, патрыярхі Канстанцінопаля, Антыёхіі і Дамаска, рымскі папа, а таксама манаства, для якога пісанне іконаў было адной з важнейшых крыніц даходу: супраць, апрача імператара, выказалася частка духавенства і абшчыны Малой Азіі. Барацьба была жорсткая. Пачалася яна ад знішча вобраза Хрыста з варот царскага палаца, чаму зразу супрацівіліся жыхары сталіцы. Салдат, які зняў вобраз, быў там жа забіты тлумам. Іканаборцы разбуралі храмы і манаскія абіцелі, палілі бібліятэкі, прымушалі манахаў да жаніцьбы, а ў выпадку адмовы здзекаваліся з іх, пазбаўлялі зроку а нават і жыцця. Спалена будынак Канстанцінопальскага універсітэта, у якім згарэлі не толькі рукапісы, але і выкладчыкі. Прапалі многія каштоўнасці літаратуры і мастацтва, а сама візантыйская дзяржава пацярпела вялікія не толькі культурныя, але эканамічныя і палітычныя страты. Пакланенне іконам было вернута Нікейскім саборам у 787 г. пры царыцы Ірыне, спасылаючыся на тое, што калі Бог-Сын паказаўся ў людскім выглядзе, тады той выгляд не з'яўляецца ўжо забароненай тайнай. Аднак пераемцы царыцы, якія панавалі ў 813—842 гг., зноў вярнуліся да іканаборства, якое спыніла царыца Феадора. Завяршэнне гэтага змагання адзначаецца ў Царкве ў першую нядзелю Вялікага посту святам Перамогі Праваслаўя.

**12 сакавіка**

604 г. — памёр папа Грыгорый I. Народжаны ў 540 г. у багатай рымскай сям'і хутка зрабіў адміністрацыйную кар'еру і ва ўзросце 30 гадоў быў назначаны прэфектам Рыма. Хутка аднак расчараваўся свецкімі поспехамі і вярнуўся да жыцця ва ўбостве і задуменні. У 574 г. Грыгорый стаў манахам у адным з сямі пабудаваных за яго грошы манастыроў. Пасля некалькіх гадоў папа Бенедыкт I прызваў яго служыць пры папскім двары, а папа Пелагій III назначыў яго ў 579 г. сваім паслом у Канстанцінопалі. У 584 г. вяртаецца ў свой манастыр, дзе назначаецца абатам. У 590 г. Грыгорыя абіраюць папам; ён быў першым манахам выбраным на папскі трон. Дабротна і настойліва кіраваў ён сваёй дзяржавай, праводзячы шэраг адміністрацыйных рэформ. Рэфармаваў таксама касцельны парадак і літургію. Назваўшы сябе „слугам слуг Божых" уводзіў у практыку папскае ўмешванне ў свецкія справы.

**(Ш)**

# *Парнасік*

## Нашы тэмы і праблемы

Нашы тэмы
І нашы праблемы
Розныя,
Хаця мы людзі незаможныя —
З боку маральнага,
Не матэрыяльнага.
Бо ад нас ёсць бяднейшыя,
Але духоўна багацейшыя
Людзі, якія сваю гісторыю шануюць,
На бліжняга ніколі не злуюць.
Родная мова ў іх свеціць,
Што лёгка можна *замеціць*.
Нашы бацькі, дзядулі, продкі,
Хаця іх век быў кароткі,
Многія з іх былі непісьменныя,
Але роднай мове і абычаям верныя.
Дзякуючы ім мова захавалася
І чужынцам не здавалася.
Нашы дзядулі жылі ў галечы,
Цяжка працавалі, балелі ім плечы,
Але мелі моцныя дух і веру
І адпаведную „меру".
Мерыла яна, як паступаць
І добры прыклад даваць.
Калі мы роднай мовы адракаемся,
У пачуццях раскідаемся,
Над прорвай знаходзімся
І туды скоцімся.
Дык бярэм прыклад з народаў,
Дзе патрыятызм цвіце ад родаў,
Які не пагас ніколі,
Хаця жыў у няволі.
Як польскі, што жыў пад падзеламі,
Але ніколі не траціў надзеі.
Будзем не горшыя ад сваіх продкаў,
Не шукаючы новых парадкаў.

**Мікалай Панфілюк**

## Райцы

Мае мілы людзі,
Хачу вам сказаці,
Што райцаў нашых з гміны
Трэба палкай гнаці.
Як ішлі на выбары,
Усе нам абяцалі,
А ўлезлі на крэслы
Дык пазабывалі.
Цяпер тыя райцы
Пра сябе ўсё дбаюць,
Сабе кожны месяц
Дыеты павышаюць.
А зрабіць што трэба,
То грошай не маюць,
Яны ўсё ў кішэню
Сабе забіраюць.
А надыдуць выбары —
Яны павярнуцца,
Нізка пакланяцца
Ды шчыра ўсміхнуцца.
Чарку нам паставяць
Дадуць піва, прыкусіці,
Толькі каб ішлі мы
На іх галасаваці.
Такіх райцаў многа,
Што пра нас не дбаюць
Тады яны нас бачаць,
Калі іх выбіраюць.
Мае мілы людзі,
Такіх трэба гнаці,
І на чарговых выбарах
Другіх выбіраці.

**Мікалай Лук'янюк**

## Час

ён ляціць як маланка
заўсёды мерае роўна
секунды хвіліны гадзіны
не затрымаецца на міг
яго не ўпросіш не супыніш
ён ёсць бязлітасны як смерць
і з ім ніхто яшчэ не выйграў

**Аўрора**

## Любоў да навукі

Ішла бедна дзетка ў школу па веду.
Не было аднак ёй снедання,
Не было абеду.
Не было для дзеткі мыла, каб рукі памыці.
І каго за крыўду дзіцяці асудзіці?
Хіба тых што звыш нормы пілі, елі,
А дарыці бедным не ўмелі.
Што ж, нэндзы Бог не стварае.
Толькі мы, бо не дзелімся тым, што маем.

**Мар'я Пень**

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** аўтар „Антыгоны", 3. раптоўнае абніжэнне сардэчнай актыўнасці, 5. непрыемнае адчуванне ў роце, 7. напр. Нарва, 9. чарада фурманак, 10. сын унука, 11. каштоўны мінерал, 12. яго сталіцай Тэгеран, 14. шэраг аднолькавых арак, 16. статак свойскай жывёлы, 17. узгорак з пасляледніковых абломкаў.

**Вертыкальна:** 1. высмейванне розных адмоўных з'яў, 2. школьнае аддзяленне, 3. прыток Волгі, 4. псіхічнае ўздзеянне, якое выклікае страх, нервуе, 6. сустрэчная атака, 8. малодшае воінскае званне, 9. мясцовасць каля Александрыі, дзе ў 1798 годзе англійскі флот разбіў флот французаў, 11. старадаўняе верхняе адзенне, 13. запаленне міндалепадобных залоз, 14. мангола-татарскае войска, 15. фігура ў картах.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 3 н-ра:**

**Гарызантальна:** хрэн, Сінай, Еўропа, азон, пасол, цэмент, кінетыка, колас, карнавал, персанал, маска, маставік, пасада, ярлык, неон, прыток, згода, Ілья.

**Вертыкальна:** кімано, валока, разведка, ненцы, крама, спіна, лістапад, эканомія, Кіпр, лорд, квас, елка, алкаголь, акруга, крыўда, Татры, мачта, санкі.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Лукаш Пацэвіч** з Беластока і **Мікалай Сазановіч** з Навінаў-Вялікіх.

**Міні-даведнік:**

**Абукір** — мясцовасць над Міжземным морам у Егіпце.

# Як павысіць тыраж „Нівы"

У месяцы лютым давялося мне пабываць на пошце ў Трасцянцы ў гміне Нарва і тут мяне зацікавіла колькі ёсць пастаянных падпісчыкаў на беларускі штотыднёвік „Ніва". Начальнік пошты, спадарыня Ніна Васілюк, сказала, што ўяе 5 пастаянных падпісчыкаў, другія 5 экземпляраў прадаюцца ў розніцу. Мяне вельмі гэта зацікавіла і пачалі мы весці гутарку аб „Ніве". Калісьці пошта ў Трасцянцы мела намнога больш пастаянных падпісчыкаў на „Ніву", а пісьманосец Уладзімір Андраюк (цяпер пенсіянер) часта атрымліваў узнагароды ад рэдакцыі.

Начальнік паштовага аддзялення сказала мне, што калі „Ніва" перастала друкаваць на сваіх старонках праграму тэлебачання, то адразу знізіўся лік падпісчыкаў. На маю думку на старонцы 11 трэба зліквідаваць пастаянную рубрыку „Позірк у мінулае", а туды ўвесці праграму тэлебачання. Калісь тое месца займала праграма.

**Мікалай Лук'янюк**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 709. Юльян Казбярук (Гайнаўка) .................. 10,00 зл.
4 710. Мікалай Кішкель (Беласток) .................. 50,00 зл.
4 711. Мікалай Суліма (Гайнаўка) .................. 10,00 зл.
4 712. Яўгенія Палоцкая (Беласток) .................. 18,00 зл.
4 713. Марыя Федарук (Беласток) .................. 18,00 зл.
4 714. Віталь Луба (Беласток) .................. 10,00 зл.
4 715. Аляксандр Вярбіцкі (Беласток) .................. 10,00 зл.
4 716. Галіна Рамашка (Беласток) .................. 22,00 зл.
4 717. Міраслава Лукша (Беласток) .................. 18,00 зл.
4 718. Ганна Кандрацюк-Свярубская (Беласток) .................. 10,00 зл.
4 719. Ада Чачуга (Беласток) .................. 18,00 зл.
4 720. Ян Мароз (Дубічы-Асочныя) .................. 25,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.


*Ніва*

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

**Нічога не было**

*Між намі нічога не было толькі...*

***Івона Марціновіч***

Не, нічога не было,
Толькі...
Ты завёў аж за сяло
Ў роў глыбокі.
Цалаваў мяне і я
Цалавала.
А пасля пілі гарэлку,
Елі сала.
Агуркі былі яшчэ
І катлеты,
А пасля курылі мы
Цыгарэты.
Не, нічога не было
Толькі...
Нехта скінуў нам у роў
Хвост вяроўкі.
Ты палез наверх і я
За табой палезла,
Роў, вядома, не пакой,
Дзе ёсць крэслы...
Роў глыбокі — шчэ глыбей
Нам здаваўся,
Калі вылез ты наверх —
Развітаўся.
Не, нічога не было,
Толькі...
Як ты будзеш жыць цяпер
Без сваёй Івонкі?..

**Сяргей Чыгрын**

## Сентэнцыі Надзеі Руско

* Зло забывай, дабро ўспамінай.

* Не плануй сабе веку, чалавеку, бо не знаеш калі павекі закрыюць табе на векі.

* Калі вецер не змаўкае, сон з вачэй знікае.

* Не стаў сябе высока, бо паставяць цябе нізка.

* Лепш няхай уколе ружа, чым язык.

# Ніўка

*Малюнак М. ГАРМАЗЫ*




**У кіпцюрах цецерука**

## Двое ў парку

Сядзелі на лаўцы. Вецер разгарнуў пёрыстыя воблакі і майскае сонейка абдорыла ласкаю і лавачку, і парк, і хіба ўвесь горад. Свет засмяяўся, толькі яны абое не прыкмецілі раптоўную перамену. Гутарылі. Між іхнімі вуснамі разыгрывалася драма.

Хлопец: Значыць, бывай! Чыкі-чыкі-так! Назаўжды.

Дзяўчына: Не называй мяне Чыкі-чыкі-так. Ніколі ўжо.

Х: Заўжды я так цябе называў. Помніш хіба?

Д: Ага, называў. А калі бара-бара і рыкі-тыкі, тады да Ёлькі пабег...

Х: Пабег, пабег. Ты першая сказала „бай, бай". А сама ведаеш: ніхто не хоча жыць без кахання.

Д: Праўда, здурэла я крыху. „Толькі з табою мне хочацца жыць", — паўтараў ты. — І „А-а-а, дзяўчына мая". Вось я і задумала праверыць.

Х: Праверыць. Была б гэта праўда. Перамагла яна ў гэтых няшчасных выбарах прыгажуні сакавіка, от і ўсё. Адразу, „бай, бай"... Вада газіраваная.

Д: Звычайнае жаночае какецтва. А ты як той смаркач: зразу да Ёлькі.

Х: Што ж, было-прайшло. Толькі жаль астаецца. Але цябе назаўсёды ў сваім сэрцы насіць буду.

Д: Я цябе таксама. Ад сёння час для мяне стрымаўся. А ўласна кажучы, каторая гадзіна?

Х: Адзінаццатая сорак пяць.

Д: Ой, які прыгожы гадзіннік! Пакажы. „Амега"? І мне бацькі вось такі абяцалі. На першую камунію...

Х: А мне ровар. Італьянскі. Дык што ж — бывай!, Чыкі... Арывэдэрчы, мая дзяўчына...

Д: Бывай. Назаўсёды, каханы мой... Чаму свет такі бязлітасны?

Закінулі ранцы на плечы і пабеглі. Кожнае ў свой бок.

**Міхась Андрасюк**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Размова на пошце:

— Гэты ліст занадта цяжкі, трэба даклеіць адну марку.

— Дык тады будзе ён яшчэ цяжэйшы!

* * *

Паліцыянт дапытвае падазронага:

— Прызнавайцеся, колькі мяшкоў бульбы ўкралі вы свайму суседу.

— Сем: тры ў панядзелак і два ў сераду.

— Гэта толькі пяць...

— Па апошнія два выбіраюся сёння вечарам.

* * *

Паліцыянт познім вечарам затрымоўвае вазака:

— А вы што: не ведаеце, што пры возе трэба мець запалены ліхтарык?

— У маім выпадку гэта не мае сэнсу: мой конь зусім сляпы.

* * *

Маладая прыгажуня пераязджае шыкоўным самаходам перакрыжаванне на чырвоным святле. Затрымлівае яе паліцыянт:

— Вы хіба дадумваецеся, з якім намерам я вас затрымаў?

— Дадумваюся, але нічога з гэтага не выйдзе: на сённяшні вечар я ўжо дамоўлена.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Хаджу з Андрэем толькі тыдзень, а здаецца мне ўжо, што ён мяне кахае.

— Нічога тут дзіўнага: чаму ж ты б мела розніцца ад другіх.

* * *

Пара ўпершыню спатыкаецца на кватэры:

— Не хочаш пабачыць тое месца, дзе мне лекар аперыраваў апендыкс? — пытае яна.

— Бальніца мяне не цікавіць, — адказвае ён.

* * *

У судзе:

— Чаму хочаце развесціся з жонкаю?

— Бо яна хоча мець дзіця.

— Ці ж гэта можа быць зачэпкай для разводу?

— Так; бо яна хоча з другім.

# Скажам праўду

Сустрэліся ў пустыні два страусы. Адзін задумаўся:

— Ці ты ведаеш, чаму страусы хаваюць галаву ў пясок?

— Гм, не ведаю, чаму гэта робяць іншыя, але я вяду пошукі нафты.

* * *

— Мілая, — мармыча муж спрасонку, — выключы святло, тэлевізар, пасцялі ложак і прынясі мне кубачак гарбаты...

— Табе што — ашалеў? Мы ж у кіно!

* * *

— Гэта вы — сяброўка майго сына? Прыемна пазнаёміцца. Дагэтуль вы былі прысутны толькі ў нашым хатнім бюджэце.

* * *

— Калі ласка, пан таксіст, вы лепш прачысцьце лабавую шыбу — вам жа ж нічога не відна!

— Думаеце, гэта хоць крыху дапаможа? Я і так акуляры дома пакінуў!

* * *

— Я хацеў бы купіць аўтамабіль, — сказаў міліцыянт у салоне.

— Прапаную вам „Паланез" — вы на ім даедзеце з Варшавы ў Радам у гадзіну!!

— Не, не хачу яго.

— Ну дык купіце „Гольф". На ім даедзеце з Варшавы ў Радам у паўгадзіны!

— Не. Не хачу!

— Чаму ж вам нічога не падабаецца?

— Я і не думаю ехаць у Радам!

**(лук)**

# Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Адзін Бог ведае, колькі чалавек можа перанесці. Думаю, што калі б быў на маім месцы мужчына, дык даўно ўжо кінуў бы сям'ю.

Мы пазнаёміліся ў бальніцы, дзе я працавала медсястрой, а ён прыйшоў папрацаваць летам, каб зарабіць крыху грашa да студэнцкай стыпендыі. Быў санітарам.

Было гэта каханне ад першага погляду. Неўзабаве мы пажаніліся, а праз год нарадзіўся ў нас сын. Не, не ашчаслівіў ён нас, наш першынец. Ногі ў яго былі ненармальна выкрыўленыя, дзіця не магло б хадзіць.

Пачаліся аперацыі. Беласток—Варшава—Беласток. Не ведаю, ці не з той бяды ў мужа, 27-гадовага мужчыны, паявіліся страшэнныя галаўныя болі. Лекары не давалі веры. Калі праверылі ўрэшце яго мозг на камп'ютэры, высветлілася, што ў галаве мужа расце гуз. Ізноў аперацыя, доўгатрывалая, страшная. Не верыла я, што перажыве ён гэта. А як жа я застануся адна з хворым дзіцём...

Але ведаеш, Сэрцайка, выжыў. Яшчэ год пасля аперацыі ляча́ўся, але быў з намі. Жыў! Жыў, ды змяніўся яго характар, усё яго аблічча. Стаў нервовы, не меў памяці. Вядома, не мог далей вучыцца. Калі ішоў у краму, я мусіла даваць яму лісток паперы, але не толькі дзеля таго, каб не забыўся, што трэба купіць, а каб памятаў, што як называецца: хлеб, мука, малако, масла.

Тым часам нарадзіўся ў нас другі сынок, здаровенькі, дзякуй Богу. Я працавала далей, а дзяцей даглядала свякруха. Муж атрымаў рэнту, але без працы не сядзеў. Карміў дзяцей, прыбіраў, варыў абед.

Старэйшага хлопчыка трэба было аперыраваць шмат разоў, каб мог стаць на свае ножкі. Восем аперацый на адзінаццаць гадоў яго жыцця! Свякруха ўжо не вытрымала ўсяго гэтага і вярнулася на вёску. А, зрэшты, дзецьмі займаўся бацька. Выпраўляў іх у школу, глядзеў, як робяць урокі. Старэйшы сын быў вельмі здольны ў матэматыцы.

Мо яшчэ неяк абышлося б, бо хворы сынок ужо хадзіў амаль нармальна, толькі злёгку кульгаў. Дзякуй Богу, што не дзяўчына — ногі яго былі ўсе ў швах. Але лёс не меў літасці да нас. Муж аднойчы выйшаў за пакупкамі і дахаты ўжо не вярнуўся: апынуўся ў бальніцы пасля кровазліцця. Адняло яму левую руку і нагу. Ледзь ходзіць. Эпілепсія. Лекары папярэдзілі, што знікае яго розум.

Божа, а я яго кахаю такога, які ён ёсць: слабога, без валасоў, без памяці, ледзь ходзячага. Дзеткі яго вельмі любяць. Гуляюць разам, а бацька ізноў іх выпраўляе ў школу, хаця цяжка яму цяпер рабіць ім канапкі.

Сэрцайка, нягледзячы на ўсе нашы беды, мы жывем, як нармальная сям'я. Святкуем святы, запрашаем гасцей, робім ёлку. Сама не ведаю, ці добра я раблю. Мо лепш трэба было б ізаляваць мужа ад людзей, каб спакойна сабе адпачываў у асобным пакоі, без штодзённых турбот і абавязкаў? Але мне здаецца, што мо так яму лягчэй жыць, бо не адчувае сябе выкінутым за борт жыцця...

**Вераніка**

Даражэнькая Вераніка! Сапраўды на тваю долю выпала нялёгкае жыццё. Але што зробіш — кожны нясе свой крыж. Я думаю, што ты правільна робіш. Менавіта ўцягваеш мужа ў жыццё і адносішся да яго не як да інваліда, а як да здаровага чалавека. Калі ты яго так трактуеш, дык і іншыя будуць у адносінах да яго такія самыя. Будуць яго шанаваць, нягледзячы на яго страшэнную хваробу. Усё ж твой муж, відаць, інтэлігентны чалавек, быў жа студэнтам, вучыўся ў вышэйшай установе. А што здарылася бяда, дык трэба памятаць, што з кожным у любы момант такое можа здарыцца.

Ты робіш вельмі добра, што не ізалюеш мужа ад усіх і ўсяго. Гэта яго будзе трымаць пры жыцці, а не спакой у асобным пакоі. У вашай сям'і ён адчувае сябе патрэбным, хаця і не зусім здаровы. А чалавек жыве фактычна датуль, пакуль адчувае, што ёсць з яго яшчэ нейкая карысць.

**Сэрцайка**